ПАДПІСВАЙЦЕСЯ НА

НА ГОД

# 1930

Адрас рэдакцыі: МЕНСК, вул. К. Маркса, 14, ЦК КП(б)Б. Рэдакц. часопісу „ПАРТЫЙНЫ РАБОТНІК"

# ПАРТЫЙНЫ РАБОТНІК

Орган ЦК КП(б)Б

Выходзіць 2 разы на м-ц.

ПАРТЫЙНЫ РАБОТНІК —

**Абагульвае** вопыт партыйнай работы, зьмяшчае кіраўнічыя артыкулы па партыйнаму будаўніцтву і пытаньнях гаспадарчай і культурнай работы з пункту гледжаньня партыйнага кіраўніцтва.

**Вывучае** вопыт і практыку партыйнай работы на мясцох, асьвятляе работу нізавых партыйных арганізацый, абгаварвае мэтоды і задачы партыйнай работы, высьвятляе дадатны вопыт работы і пераносіць яго ва ўсе ячэйкі КП(б)Б.

**Дае** ўсе неабходныя для партыйнага работніка, агітатара і прапагандыста матэрыялы—факты, лічбы, па пытаньнях бягучай працы.

**Дапамагае** ў практычнай рабоце нізавым кадрам партработнікаў, сакратаром і агітпропам, членам бюро ячэек, кіраўніком парт. асьветы, групоргам, зьвяноргам і інш.

**Асьвятляе** чарговыя пытаньні комсамольскай работы з пункту гледжаньня партыйнага кіраўніцтва.

**Ставіць** на абгаварэньне новыя пытаньні партыйнай работы і кіраўніцтва, высьвятляе новыя формы партыйнай і масавай работы ў пэрыод соцыялістычнай рэконструкцыі.

**Рэгулярна зьмяшчае** крытыку і бібліографію літаратуры па пытаньнях партыйнага будаўніцтва і масавай работы ў горадзе і вёсцы.

**Зьмяшчае** партыйныя дырэктывы па важнейшых пытаньнях

**КОЖНАЯ** гарадзкая і вясковая партыйная і комсамольская ячэйка, кожны агітатар, пропагандысты, цэхавы, групавы, зьвенавы організатар, кожны партыйны актывісты — павінен падпісацца на часопіс „ПАРТЫЙНЫ РАБОТНІК".

## УМОВЫ ПАДПІСКІ:

| | |
|---|---|
| На 1 месяц | 25 кап. |
| „ 3 месяцы | 75 кап. |
| „ 6 месяцаў | 1 р. 50 кап. |
| „ 1 год | 2 р. 75 кап. |

**Кошт асобнага нумару — 15 кап.**

## ПАДПІСКУ ПРЫМАЮЦЬ:

Бюро падпіскі Белдзяржвыдавецтва — **Менск, Пляц Волі, № 5.** Аддзелам падпіскі Дзяржвыдавецтва РСФСР — **Менск, Савецкая, 54** і ўсе паштовыя аддзяленьні і лістаносцы.

# ЛЕПШАЯ РЭКЛЯМА

## Ў АДЗІНЫМ У БССР—ДВОХТЫДНЁВЫМ ІЛЮСТРАВАНЫМ ЧАСОПІСУ „ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ"

ДЗЕСЯТКІ ТЫСЯЧ ПРАЦОЎНЫХ ЧЫТАЮЦЬ

# ЧЫРВОНУЮ БЕЛАРУСЬ

**ОРГАНІЗАЦЫЯМ СКІДКА.** ЗВАНЕЦЕ ПА ТЭЛЕФОНАМ №№ 17-12, 7-41 І ДА ВАС БУДЗЕ ВЫСЛАНЫ ПРАЦАЎНІК ДЛЯ ПРЫЁМУ АБВЕСТКІ

ЗЬМЯШЧЭНЬНЕ АБВЕСТКІ У ЧЫРВОНАЙ БЕЛАРУСІ

## ГАРАНТУЕ ПОЎНЫ ПОСЬПЕХ




Апавяданьне Ц. ДОЎГАПОЛЬСКАГА.

Малюнкі Я. Ахрэмчыка.

РАНЕЙ яе звалі Бася-рыся ці Біся-рыся, а крыху пазьней—Пі-пі. Першай даведалася пра гэта тэхнічная працаўніца, але яна маўчала. Калі-б яна сама была маладой, дык ёй было-б шкада, чаму-ж гэта загадчык Хаскін закруціўся з другой кабетай, а ня з ёю. Але тэхнічная працаўніца была ўжо немаладая, для яе было досыць сяброўскае ўсьмешкі лістаносца, які штодзень прыносіць лісты ва ўстанову. Яна не прэтэндуе на каханьне адказнага працаўніка—і яна маўчала, але да часу. Пачынала нудзіць з усей гэтай гісторыі.

Перш прыходзіў загадчык Хаскін адзін. Жулікавата азіраўся, увахо-дзіў да сябе ў габінэт і замыкаў за сабою дзьверы. Неўзабаве за ім, заўсёды ў адзін і той-жа час, стукалася дзяўчына. Ён добра ведаў яе стук, ніколі ня пытаў хто ды чаго. Адчыняў, замыкаў за сабою дзьверы і заўсёды клікаў яе, тэхнічную працаўніцу, і казаў:

— Калі мяне будуць пытацца, дык каб ты, сястрычка, казала, што нікога ва ўстанове няма.

Усе гаворыць такімі хітрымі слоўцамі.

Тэхнічная працаўніца, зразумела, рабіла так, як загадваў ёй загадчык, але ў сэрцы яна таіла злосьць на Хаскіна. Усе мужчыны аднолькавыя. Здаецца, гэткі чалавек, як яе загадчык, рабочы-вылучэнец, партыйны, сумленны, сьвядомы чалавек, ды каб уцюрыўся ў гэткую разьлезлую дзяўчыну! Як гэта яму не абрыдае. Чаго маўчыць ячэйка? Кожны вечар, не праз вечар... Чорт ведама што... Вось шчасьце злавіў!

Здаецца ціхенькі, але ад ціхенькіх уцякай. Ціхая вада глыбака рые.

Аднойчы загадчык імпэтна расчыніў дзьверы габінэту і паклікаў яе, тэхнічную працаўніцу. Дзяўчына хадзіла па пакоі і харашылася, а ён, расшпілены і разгарачаны, проста нібы са скуры лез і ўсё паўтараў: „Бася-рыся, Бася-рыся, Бася-рыся“. А яна глядзела на яго такім адчужоным поглядам, нібы ўпяршыню бачыць мужчыну, і папраўляе яго: не Бася-рыся, а Біся-рыся, Біся-рыся.

— Дарагая таварышка,—зьвярнуўся загадчык да яе, да тэхнічнай працаўніцы,—будзьце ласкавы, прынясеце мне портфэль з дому, у ім ляжыць такая рэч, якая мне зараз вельмі патрэбна...

Бася-рыся, Бася-рыся, Бася-рыся... Ён лопаецца з нецярплівасьці, нібы яна, тэхпрацаўніца, перашкаджае яму круціцца з гэтай падстрыжанай коткай. Яму мала габінэту, ён хоча застацца адзін ва ўсёй установе. Калі яна захоча, яна можа ўсё расказаць яго жонцы, вось яна і наробіць гармідару.

Ну хай яны на яе вачох пацалуюцца, яе гэта ніколькі не зьбянтэжыць, усёроўна яна пра ўсё ведае. Калі Бася-рыся на яго падасьць у суд, яна будзе маўчаць, яна не раскажа, яна перад судом пакажа, што да загадчыка прыходзілі розныя людзі, мужчыны і жанчыны, ці мала па што хадзілі да яго. Яна будзе адмаўляць, што Бася-рыся да яго хадзіла, добра на яе: хай ня лезе. А што, ня ведае яна, круціхвостка, што яе загадчык мае жонку і двох дзяцей?

Тэхнічная працаўніца маўчала да часу.

Аднойчы яна мірганула машыністцы якраз у той момант, калі дзяўчына пастукалася ў дзьверы. Уся ўстанова назаўтра ведала пра Басю-рысю.



— Хадзем,—зьвярнулася справаводка да прыяцелькі,—цікава зірнуць, ці ёсьць у габінэце сьвятло, ці няма...

Усе хадзілі ўзбураныя. Ніхто ня мог глядзець на тое, як рабочы ашуквае сваю жонку і выкарыстоўвае ўстанову і свой габінэт, каб сьцішаць свае нізкія інстынкты.

Бедная жанчына! Яна працуе на ўсю сям'ю і ня ведае, гаротная, што робіцца за яе плячыма.

Дзяўчаты і кабеты ва ўстанове ўсю гэту гісторыю лічылі асабістай абразай для сябе. Калі ты гэткі спрытны хлапец, дык чаго-ж ты шукаеш жанчыну на старане?

Ніхто-б не адмовіўся ад загадчыка. Ён малады, прыгожы мужчына.

Увечары справаводка з сакратаркай шпацыравалі па вуліцы.

— Хадзем,—зьвярнулася справаводка да прыяцелькі,—цікава зірнуць, ці ў габінэце ёсьць сьвятло, ці там цёмна?..

У габінэце было відна, зялёны абажур рэзаў вочы. На вакне скакалі дзьве цені—цень загадчыка і яго каханкі. Гэта злавала—кажэце сабе, што хочаце.

Уся ўстанова прагна жадала аднаго—сарваць маску, раз назаўсёды. Калі мясцком атрымаў дармовыя білеты, справаводка прынесла Хаскіну... 3 білеты! Гэта добрая шпілка!

— Вось вам тры білеты.

— Мне непатрэбны білеты,—адказаў загадчык,—мне сёньня няма калі ісьці ў тэатр.

Ага, ён баіцца паказвацца перад людзьмі, ён баіцца жонкі.

Аднойчы машыністка даволі рана прыйшла друкаваць насьценгазэту. Падышла яна да тэхнічнае працаўніцы паслухаць навіны.

— Вы можаце мяне павіншаваць,—сказала тэхнічная працаўніца,—таварыш Хаскін даў сваей каханцы новае імя Пі-пі. Скакаў, як вар'ят, па габінэце і ўсё паўтараў: Пі-пі, Пі-пі, Пі-пі.

Гэта было сэнсацыяй. Новае імя пераплывала з вусняў у вусны, і поэта насьценгазэты нават вершык напісаў у часе працы:

Бася-рыся, Бася-рыся,
Ой, дзяўчына, ты агонь—
Моў, таварыш, схамяніся:
Шмат каштуе электрон...

У габінэце вельмі позна
„Засядаюць“ вечар кожны.
Бася-рыся Пі-пі, Пі-пі.
„Лепей зранку ўжо прыдзі...“

Шыла ў мяшку не схаваеш, кідала вокам на загадчыка ячэйка, кідалася ў вочы, што чалавек з галавой заблытаўся ў гэтай брыдкай гісторыі.

Загадчык ужо разы са два прапусьціў паседжаньні фракцыі.

На нарадзе спэцыялістых, тэхнікаў і будаўнікоў-інжынэраў, у суседнім пакоі трэ' было вырашаць важныя пытаньні. Чакалі загадчыка. Беспартыйныя спэцыялістыя сядзелі і малявалі на стале чалавечкаў, перакідваліся колкімі жарцікамі. Адзін з іх сказаў:

— Вось вам прыклад адданасьці! Ці-ж на гэта вылучаюць рабочых? На што чалавек марнуе час!



Трэ' было вырашаць важныя пытаньні. Чакалі загадчыка...

Ён і яго дзяўчынка выйшлі з габінэту. Яны неяк няёмка разьвіталіся, яна крыху саромліва.

— Пасьля заўтрага?.. — спытала дзяўчына.

— Пасьля заўтрага я буду заняты, лепей на дзень пазьней.

— А мы вас чакаем, таварыш — заўважыў нехта злосна.

Хаскін зірнуў на гадзіньнік і паказаў, што прыйшоў у самы час, калі яго гадзіньнік ня позьніцца.

Нічога ня зробіш, прыступілі да нарады.

І ці варта з гэткай істотай мець справу? Вучыць яго, усё тлумачыць яму па дыяграмах, чакаць яго.

Загадчык так захапіўся Басяй-рысяй, што нават не заўважыў насьценгазэты. Праходзіў па калідоры, дзе вісела насьценгазэта, сотні разоў і ніводнага разу нават не прыпыніўся. Называецца, закруціла дзяўчына як сьлед, ня бачыць, што робіцца ля носу.

Але рэдколегія не маўчала. Яна пастанавіла раскрыць карты на першым-жа паседжаньні. А калі загадчык ня зьявіцца на паседжаньне—яшчэ лепш. Тады ўжо зусім будзе ясна, да якога брыдкага канца дакаціўся іх загадчык.

Але загадчык як на тое прыйшоў. Ён сядзеў, захапіўшыся думкамі, ні з кім словам не перакінуўся.

Рэдактар пачаў вельмі ясна:

— Вы патрабуеце, каб газэта была добрай газэтай, гэта немагчыма. Вось наш поэта напісаў прыгожыя вершы пра рэжым экономіі, ён вельмі ясна паказвае, што сядзець цэлыя ночы у габінэце каштуе грошы. Электрычнасьць каштуе грошы, бо ні Пі-пі і ні наш загадчык не выдзяляюць з сябе праменьняў. Яны хутчэй за ўсё кідаюць ад сябе цені, што кладуцца на ўсю нашу ўстанову, і ўсётакі наш загадчык набраў поўны рот вады і маўчыць.

Загадчык папрасіў слова. На паседжаньні пастаражыліся. Зрабілася ціха.

— Таварышы,—пачаў ён,—я не разумею, чаго хоча ад мяне насьценгазэта. Няхай яна гаворыць ясна. Калі вы лічыце, што я павінен заплаціць за электрычнае сьвятло, якім я карыстаюся, дык я магу заплаціць. Няхай рэдактар прадставіць рахунак. Але пра якую Басю-рысю вы гаворыце? Пі-пі, што за Пі-пі?

Усе засьмяяліся.

Ён зрабіў выгляд, як найлепшы артысты, быццам не пра яго ішла гутарка.

— Я патрабую, каб мне сказалі адкрыта і ясна, што за Бася-рыся і што за Пі-пі?—паўтарыў Хаскін, і яшчэ гучней зарагаталі ўсе.

Рагатала тэхнічная працаўніца, машыністка, сакратарша, спэцы, бухгальтар,—усе рагаталі.

— Слова мае тэхнічная працаўніца,—сказаў рэдактар.—вы можаце гаварыць, таварышка, зусім адкрыта, не палохаючыся: за самакрытыку ня прыцягваюць да адказнасьці.

Тэхнічная працаўніца спачатку спалохалася, але зараз-жа яна выказалася коратка і ясна:

— Спачатку таварыш загадчык назваў яе „Бася-рыся", а крыху пазьней—„Пі-пі".

Загадчык стаяў як скамянелы, і нібы ня ведаў, як выкруціцца.

— Таварышка, што вы блазьняце?..—моцна зазлаваў загадчык.

Але тэхнічная працаўніца таксама разазлавалася. Калі так, калі ён лаецца, яна яму пакажа. І яна пачала:

— Вы ня памятаеце, таварыш, як вы мяне аднойчы пасылалі за портфэлем, і як вы гойсалі па габінэце і ўсё мілаваліся:

— Бася-рыся. Бася-рыся. Паўтаралі ці не? А затым Пі-пі, Ці-пі, Піпінка... Нават у часе працы вы Піпінку з вуснаў ня спускалі!

— Як я сказаў?—перапытаў хвалюючыся загадчык.

— Бася-рыся, Піпінка.

Тады ўвесь сход пачуў гістэрычны жаночы сьмех на задніх месцах. І хто, думаеце, так гістэрычна сьмяяўся?.. Сама Бася-рыся, Піпінка. Гэты сьмех душыў яе, яна хавалася тварам у мужчынскае паліто свайго суседа. Увесь сход чакаў, чым гэта ўсё скончыцца.

Пі-пі, Бася-рыся ўзышла на трыбуну і сказала:

— Раней была Бася-рыся, затым Пі-пі, а цяпер Стэра-Мэра.

Сход не зразумеў аніводнага слова. Але для ўсіх было ясна, што Бася-рыся не абы хто, а што гэта дзяўчына можа закруціць хоць каму галаву.

Яна стаяла так горда і грацыёзна, і ў той самы час так спакойна. Так выходзіць перад публікай толькі ўлюбёная сьпявачка, якая ўпэўнена, што аўдыторыя чакае яе з нецярплівасьцю.

— Міша,—зьвярнулася яна да суседа, ля якога яна сядзела,—падай сюды сшытак.

Да трыбуны падышоў малады хлапец, шмат маладзейшы за Хаскіна, падаў тоўсты сшытак і ледзь стрымліваючыся ад сьмеху, зьвярнуўся на сваё месца.

— Раней была Бася-рыся, затым Пі-пі, а цяпер Стэра-Мэра,—паўтарыла Бася-рыся перад усім сходам, што змоўк у прагавітай цікавасьці. Бася-рыся хвілінку змоўчала, аглядзела натоўп, затрымала погляд на двох інжынэрах і даклала сходу:

— Не „Бася-рыся", а „Бісэктрыса". Не „Пі-пі, Піпінка", а „Пі" проста „π", ня „Стэра-Мэра", а „Стэрэомэтрыя", і вось вам, таварышы, сшытак... Таварыш інжынэр, ваш загадчык паступае сёлета ў будаўнічы тэхнікум... Мне ён ужо здаў залікі. Вось яго заданьні, таварыш інжынэр! Ён за зіму шмат пасьпеў, таварышы!..



...Калі так, калі ён лаецца, яна яму пакажа. І яна пачала...

Тэхнічная працаўніца няўпэўнена ўстала і сказала, што яна сама бачыла — няма чаго казаць, і гладкі язычок Піпінкі нічога тут не дапаможа.

Абодва інжынэры пераглянуліся і адзін заўважыў:

— Цяпер ты ўжо бачыш?

Пі-пі зышла з трыбуны, і ніхто ў замяшаньні ня ведаў, што рабіць: пляскаць брава, ці не, аж пакуль рабкор насьценгазэты не перарваў гэтую маўчанку:

— Рэдколегія вітае загадчыка, але, на мове эспэранто гаварыць ня трэба.

Усе засьмяяліся, два-тры аплёдавалі.

Вось як скончылася гісторыя з „Бася-Рысяй-Піпінкай".

З яўрэйскае мовы пераклаў **І. Плаўнік.**

# ПАМІЖ МОЛАТАМ І КАВАДЛАМ

З УСПАМІНАЎ Г. РУГЕРА

1923 ГОД. ФРАНЦУСКАЕ войска — войска Пуанкарэ, Коці, Крэзо і іншых магнатаў цяжкае індустрыі францускае рэспублікі пасунута наперад, на другі бок Рэйна. Горад за горадам, раён за раёнам окупуюцца захопнікамі. Па вуліцах Дзюсельдорфу, Дысбургу Кобленцу, Эсену і Дортмунду замігалі „кэпі“ францускіх афіцэраў, атрымала права грамадзянства француская мова.

Нямеччына ня плаціць, яна ня можа плаціць „саюзьнікам“ вялізнае вэрсальскае контрыбуцыі. А калі так—наперад францускае войска, няхай нямецкі рабочы пад пагрозаю вашых штыхоў працуе на францускіх капіталістых; ён-жа дасюль працаваў на капіталістых нямецкіх...

Захоплены ўзброенаю сілаю заводы, фабрыкі, капальні багацейшага на вугаль Рурскага раёну. Цяжкая рука чужаземных захопнікаў груба спыніла ўсё эканомічнае жыцьцё окупаванае краіны.

А з Бэрліну ішоў другі лёзунг — пасыўнае супраціўленьне.

— Не працуйце на французаў, — казалі нямецкія капіталістыя сваім рабочым.—Пакідайце фабрыкі і заводы, капальні і пабудовы. Пасыўна супраціўляйцеся чужаземным захопнікам. Мы забясьпечваем вам вашу зарплату...




Пасёлак шахцёраў у Дармштаце.

І грозна папярэджвалі:

— Хто з вас пойдзе працаваць на французаў, той назаўсёды будзе выкрэсьлены са сьпісаў рабочых прадпрыемстваў... Таго ўрэшце чакае суд за здраду.

Цяжкае было становішча нямецкага рабочага ў Руры. Ён быў паміж молатам і кавадлам. З аднаго боку францускія інжынэры і генэралы ўгаварвалі станавіцца на работу, дакляравалі хлеб, добрую зарплату. З другога боку нямецкія гаспадары вымагалі супраціўленьня, пагражалі ў будучым ня прымаць на работу, угаварвалі цярпець і жыць на тыя маленькія грошы, якія яны тайком раздавалі сваім служачым і рабочым, што баставалі.

А нямецкая марка падала шалёна, катастрофічна. Мільёны, мільярды, більёны... Цэлыя плоймы асыгнацый, на якія нельга было купіць ні фунта хлеба, ні сала, ні мяса. Крамы з пустымі вітрынамі, бо гандляры захавалі тавары ў склепы, чакаючы лепшага часу.

На вуліцах ваенныя патрулі. Праверка дакумантаў. Арышты.

Замерла жыцьцё у Рурскай вобласьці. А начамі па вуліцах грымелі вінтовачныя і рэвольвэрныя стрэлы... Гэта, або нямецкія „патрыёты“, асьлепленыя нацыянальнаю ненавісьцю, „зьнімалі“ францускіх дазорных, або францускія дазоры, выконваючы загад сваіх начальнікаў, прыстрэльвалі тых, хто пакідаў сьцены свайго дому пасьля дзевяці гадзін вечара.

Так адбывалася француская окупацыя Рурскае вобласьці. Такімі былі першыя плады „міру“, урачыста падпісанага ў Вэрсалі.

Сумна і панура стаяць пакінутыя рабочымі фабрыкі і заводы. Абы-як параскідана па майстэрнях сьлясарская снасьць, маўчаць, ня дымяцца трубы, патушаны доменныя і коксавыя печы... А ва ўсіх уходах і выхадах стаяць узброеныя з ног да галавы салдаты францускае акупацыйнае арміі.

Заводы і капальні—заняты „саюзнай місіяй па эксплёатацыі фабрык і заводаў Руру“,—скарочана так званым МІКУМ‘ам. Яны будуць эксплётавацца нанятымі нямецкімі рабочымі з францускімі інжынэрамі і тэхнікамі. Яны дадуць кокс, вугаль, брыкет Францыі ў лік тых вялізных контрыбуцый, якія ў Вэрсалі былі наложаны „саюзьнікамі“ на пакораную Нямеччыну.

А тыя рабочыя, тыя нямецкія інжынэры і тэхнікі, што ня хочуць працаваць на окупантаў—для тых ужо прыгатаваны аўтомабілі, каб адвезьці іх або ў турму, або за межы окупаванае вобласьці. Змаганьне, узьнятае Нямеччынаю ў выглядзе пасыўнага супраціўленьня супроць „саюзьнікаў“, аказалася непасільным для такое стомленае вайною краіны. Імпэрыялізм франка - англа - бэльгійскі ў гэту эпоху аказаўся куды мацней за імпэрыялізм нямецкі.

І тады адбылася згода. Капіталістыя Францыі, Англіі і Бэльгіі дагаварыліся з капіталістымі нямецкімі. Яны падзялілі між сабою заводы, фабрыкі і капальні Руру.

Яны дагаварыліся не перашкаджаць адзін аднаму эксплёатаваць—кожны на сваю карысьць—рурскага капальніка, рурскага рабочага.

І яшчэ цяжэй зрабілася жыць нямецкаму пролетару. Пад падвойным эксплёататарскім прэсам—чужаземным і бацькаўскім—працаваў ён.

І зноў задыміліся трубы, зноў запрацавалі машыны, зноў запалалі доменныя печы рурскіх фабрык і заводаў. Доўгія эшалёны цягнікоў везьлі кожны дзень на захад у Францыю, у Бэльгію, у Англію кокс, вугаль, амоніяк. Вэрсальскую контрыбуцыю крывёю і пакутаю аплочвала пераможнікам уся маса нямецкага працоўнага народу.




Нямецкія грошы часоў інфляцыі 1923 году—50 мільярдаў марак. На гэтыя „грошы“ ў 1923 г. у Нямеччыне нельга было купіць нават і хунта хлеба.



**Капальня „Дортефэльд“ якая занята і эксплёатуецца ў эпоху рурскае окупацыі.**

Але вядома, ад гэтае чужаземнае окупацыі менш за ўсё цярпелі нямецкія капіталістыя. Інфляцыя, разбурыўшы дапчэнту дробных гаспадарыкаў, рабочых і служачых, дала толькі карысьць Стынэсам, Круппам і іншым магнатам нямецкага капіталу. Дзяржава багата аплаціла ім усе іхныя „страты“ за эпоху окупацыі і пасыўнага супраціўленьня. А тонкая і хітрая спэкуляцыя на гэтай самай інфляцыі павялічыла на шмат тысяч марак іхныя і да таго ўжо буйныя капіталы.

Пацярпеў ад гэтага, як і заўсёды, толькі пролетарыят, бядняцкія пласты сялянства, служачая інтэлігенцыя. Жыцьцё ўзаражала, інфляцыя ліквідавала ўсе іх маленькія зьберажэньні. А работа—як на заводах, эксплёатуемых саюзьнікамі, так і ў сваіх нямецкіх гаспадароў, стала яшчэ цяжэйшаю, яшчэ пакутнейшаю.

Рабочая кляса Нямеччыны сваім потам і сваёю крывёю расплачвалася за вынікі імпэрыялістычнае вайны. З свае ўласнае кішэні рабочыя плацілі ваеннае цягло пераможнікам.

— Хлеба! Хлеба!

Мора рабочых галоў заліло вялікі пляц перад фабрыкаю мільёнэра Стынэса „Уніон“ у Дортмундзе Гневам гарадь вочы эксплёатаваных гаротнікаў. Злосна сьціскаюцца іхныя мазолістыя рукі

Нямецкая валюта—усе гэтыя нічога ня вартыя мільёны і мільярды—падаюць і падаюць. Грошы, на якія яшчэ сёе-тое можна купіць раніцою, амаль нічога ня варты ў поўдзень, а назаўтра варты толькі дзецям для забаўкі гэтымі размалёванымі паперкамі. А адміністрацыя фабрыкі вось ужо тры дні, як не дае зарплаты сваім рабочым.

Значыць, працуюць яны ў Стынэса дарам, бо грошы, якія ён ім выдасьць па старой расцэнцы, нічога ня будуць варты. Як-жа тут не хвалявацца, як-жа тут няісьці на прыступ праклятае „цьвярдыні“ капіталізму? Як-жа тут не патрабаваць свайго права на існаваньне?

— Хлеба! Хлеба!—крычаць рабочыя перад фабрыкаю.—Нашы дзеці і жонкі паміраюць з голаду!

— Мы патрабуем, каб штодня разьлічваліся за нашу работу!

— Мы патрабуем падвышэньня заработнае платы!

Сухая, выразная каманда поліцэйскага афіцэра і... град куль са сьвістам сьвідруе паветра—калечаць, забіваюць...

Натоўп рабочых, няўзброеных і не падрыхтаваных да бойкі з жахам кідаецца ва ўсе бакі. Стогны цяжка параненых, гістэрычныя крыкі і плач дзяцей поўняць сабою ясны і чысты верасьнёўскі дзень.

Задушана паўстаньне. Зламаны яшчэ адзін лішні раз галодны „бунт“ рабочых, што ныюць і пакутуюць у непасільнай рабоце. Кулямі поліцэйскіх адказалі капіталістыя Нямеччыны на законныя патрабаваньні сваіх белых рабоў.

Замест хлеба—волава.

Так было, так ёсьць і так будзе да таго часу, пакуль рэволюцыя не зьмяце і ў Нямеччыне ўладу капіталу, пакуль і там нямецкі пролетарыят ня возьме сілаю зброі ўсю дзяржаўную ўладу ў свае рукі.

А па ачышчаным ад рабочага натоўпу дортмундзкім пляцы з вінтовкамі на перавес праходзіла рота францускіх пехацінцаў.

Гэта ваенныя ўлады „саюзьнікаў“ пасылалі падмогу прадстаўнікам свае клясы—нямецкім капіталістым, каб задушыць паўстаньне нямецкіх рабочых.

Так было—так будзе.

Калі ва Францыі ў 1924 г. да ўлады прыйшоў урад Эрыё, француская політыка зьмянілася і ў адносінах да Нямеччыны. Рурская вобласьць была эвакуявана. Адкрытую і нахабную ваенную окупацыю зьмяніла другая сыстэма—ніяк не мягчэйшая, а больш тонкая, больш замаскаваная эксплёатацыя нямецкіх працоўных мас.

Плян Даўэса, замест адчыненае окупацыі вядомага багатага раёну, па сутнасьці справы, уплёў сваімі лапамі ўсю Нямеччыну. Ён пралез ва ўсе шчылінкі экономічнага жыцьця краіны, ён налажыў сваю цяжкую лапу на ўсю яе экономіку, ён на шмат дзесяткаў год зрабіў рэбочую клясу Нямеччыны на нявольнікаў ня толькі „сваіх бацькаўскіх“, але і чужаземных, галоўным чынам амэрыканскіх капіталістых.

Праўда, калі Нямеччына прыняла плян Даўэса, чужаземныя пазыкі паліліся шырокаю хваляю ў апусьцелыя, пасьля інфляцыі, касы нямецкага дзяржаўнага банку. Але, калі на гэтым добра падзарабілі нямецкія капіталістыя, дык ад гэтага ніяк не палягчэла жыць нямецкаму пролетару, нямецкаму бедняку-селяніну.

Наадварот. За пазыкі трэ' было плаціць проценты, трэ' было штогод выплачваць „саюзьнікам“ усё большыя і большыя сумы ў лік рэпарацыі, у лік ваеннае контрыбуцыі. Адсюль—непамерныя падаткі, беспрацоўе, капіталістычная „рацыяналізацыя“ вытворчасьці, усё большая і большая эксплёатацыя працоўных мас.

Прыйшоўшы на зьмену пляну амэрыканца Даўэса—плян таксама амэрыканскага банкіра Юнга не зьмяніў, не палепшыў становішча працоўных мас нямецкае рэспублікі. Гэты плян розьніцца ад пляну першага толькі яшчэ большаю танчынёю, яшчэ больш схованай формай высмоктваньня ўсіх жыцьцёвых сокаў з працы нямецкага пролетарыяту.

— Толькі нямецкая комуністычная партыя адкрыта раскрывае ўвесь эксплёататарскі характар пляну Юнга, толькі пролетарская рэволюцыя адмоваю плаціць усе імпэрыялістычныя даўгі здолее раз і назаўсёды вырашыць рэпарацыйную проблему.

Так сказаў комуністычны дэпутат тав. Тэльман на адным пасяджэньні нямецкага рэйхстагу.

Такая думка на гэта і ўсяго рэволюцыйнага нямецкага пролетарыяту.

# ВАЙНА—ГЭТА ЗЛАЧЫНСТВА!




Вядомы францускі мастак Гастон Моро напісаў карціну: „Вайна—гэта злачынства“. Карціна была выстаўлена на „выстаўцы незалежных“ у Парыжы, але, бязумоўна, не магла спадабацца францускай імпэрыялістычнай буржуазіі. Карціна Моро была абвінавачана ў тым, што яна „парушае законы моралі“. Начальнік парыскае паліцыі загадаў яе зьняць з выстаўкі. Пасьля гэтага пачалося таксе цкаваньне Моро, што гэты мастак змушаны быў эміграваць з Францыі ў Нямеччыну. Так ажыцьцяўляе буржуазія свой лёзунг „свабоды“ мастацтва!

На нашым малюнку—мастак Моро каля свае карціны. На карціне зьверху надпіс па лацінску: „Bella matribus detestata“—„вайна, якую ненавідзяць маткі“.




Апавяданьне Ю. ГАЎРУКА.

Малюнкі І. Эйдэльмана.

Вву-у, вву,-у...

Та-та-та-та-та-та-та...

РАНЕНЫ месяц паблянеў і сканаў. Нарадзілася чырвоная раніца, пурпурам, золатам запаланіла прасторы, магутным роскатам страсанула неба, і ў нявымерным надужыцьці сіл бяз хістаньня ўзьнялося сонца. Любыя, дарагія, зазюзюкалі звонкія птушкі, зашумелі, утуруючы дрэвы.

Піць, піць-піць!.. Цю-і, цюі-і-і!.. Чок, чок!..

Вву-у, вву-у, вву-у...

Га-ах, га-ах!..—зараўла зямля.

Як шэрая пошасьць, хлынулі на мяккіх шынах паўзучыя бранявікі, і гарачае волава пралілося крывавай навальніцай.

Ззз!.. Ззз!.

Людзі рвалі і рваліся аб калючы дрот, ранялі гранаты, як мячыкі, дзяўбліся штыхамі і пікамі, бароліся, біліся, паміралі; разьятранай зграяй самкнёных цел нападалі адны на другіх і натхнёна цалаваліся жалезам.

... Марш, марш, Дамброўскі,
Марш, марш да Польскі!..

.. Ура-а-а-а-а!

Дзямян Салабута пакаціў каня ў глінішчах і прыкінуўся забітым.

„Пранясіся навала!"

Ня чулі вушы, ня бачылі вочы.

Чалавек і конь мелі адно жаданьне, адзін страх—уцалець.



... І прыкінуўся забітым.

Салабута туліўся да Ваські і трымаў яго за шыю, каб той ня ўстаў. Хвіліны цяклі гадамі.

— Гадуноў, Гадуноў, братва, сюды, сюды!

— А?..

— Здаецца, забіты.

— А мала тут, чорт, забітых, чаго вароніш.

— Конь, здаецца, жывы.

— Што?

— У яме тут, жывы.

— А ну, што там, які чорт, ну ды ладна!

— Брацішка, уставай!

Салабута млява падняўся. Вакол ясны дзень. На краі глінішчаў стаяць два чырвонаармейцы: конны і пешы.

— Добры дзень, таварышы!

— А мы думалі ты забіты.

— Не, жыў. Добры дзень, таварышы!

— Ты чаго тут?

— Ад бою ратаваўся.

— Дурак! Я паеду, Стэцэнка, а ты пагавары з ім.

— Пачакай!

— А ну цябе! Ура-а-а-а!.

— Конны чырвонаармеец паскакаў так, што аж пыл закурыў.

— Ты хто будзеш?

— Ой, гэта-ж я пайду цяпер куды хачу. Васька, а ну! А ну, падла, разьлежаўся, каб ты здох! А ну, дубіна! Дзякуй табе, брацішка, гэта-ж у мяне ёсьць такі самы сын чырвонаармеец, як ты. Гэта-ж я зажыў цяпер.

— Што, крута прышлося?

— А каб ты ведаў.

Салабута таптаўся, як жэўжык, як блазен, задыхаючыся ад радасьці.

Дабрадушны чырвонаармеец, шырока расставіўшы ногі, чуць-чуць крываваты, у сініх задымленых портках, меднатвары і круглы, пагпядаў на яго з абрыву, насьмешліва трымаючыся за пояс. На ім ляжала пахучая цяжкасьць стомленага юнака і цёплае хараство гарачага мужнага ваякі. Аграмадная шашка, упёршыся чуць не пад самую паху, нязграбна скраблася па зямлі і замінала яму. Кароткая вінтоўка абвісла за плячыма, перавязанымі парожнай патроннай істужкай, гімнасьцёрка прыліпла да грудзей.

Ён ціха пагойдваў шашкаю.

Та-та-та-та-та-та-та!.. Цю-у-у! Цю-у-у!.. Таку-таку-таку-таку!.. Та-тах! Та-тах!.. Аць-два, аць-два...

Высока над галавою ў сінязорым паветры завіваліся клубамі дымкі, пранізваліся агнём і плылі сьнежна белымі хмарамі—п

Глінішча поўнілася рэхам.

— Ну, што-ж ты, носа даў шляхце?

— Ды, як табе сказаць, таварыш, настулжыўся. Хай яны, брацішка, сваім гонарам табе ножкі мыюць. Дзякуй табе!

— Пры якой часьці служыў?

— З пазнанцамі цягаўся, таварыш. Як іх там: пазнанцы, галерцы, пілсудцы, ці як у іх там, усё на чыкі, чыкі.

— А ты сам хто будзеш?

— Прасіўся напач да хутаранца, то брадзягай назваў, а дасі паляку масла, яек, то цябе прыкладам пярыць, з роднае вёскі жыўцом забірае і бізуном смаліць. Я, брацішка, такі самы, як і ты, пралетарыя дзеравенская. А ты сам, мабыць, з Сібіру?

— Я—украінец!

— А я тутэйшы. Маеш закурыць, брацішка?

— Не, ня маю. А, упрочым, ёсьць.

Чырвонаармеец грузна саскочыў у глінішча, пагпядзеў падазрона на Ваську і дастаў з кішэні шчопць нячыстай махоркі.

— Куды табе цяпер ехаць?

— А вярстоў, мабыць, дзьвесьце, от куды загналі Як там дабяруся, сам ня ведаю. Быў у мяне воз, таварыш, новы на жалезным ходу, панарад спрэвіў такі, што лялька, дык той мой воз, таварыш, гахнуў. Дзе тут з возам, хоць-бы з канём, ды хоць-бы душу тую гнілую вынесьці.

— Гарны конь!

Чырвонаармеец спрытна схапіў Ваську за морду і паглядзеў у зубы.

— Ой які стары конь! Гарны конь, гарны конь!

— Няма цела. Зьбіўся з цела, таварыш!

— Фігурны конь!

— І будзе фігурны, бо гэта яго фігура от дзе сядзіць,—і Салабута горда ткнуў сабе ў грудзі.

— Гэта ўся мая акраса. Калі хочаце ведаць, зладзеяваць прышлося. Украдзь аўсу, але дай. Порцыю сваю дзяліў, апошні хлеба кавалак. Але дарога, дарога, таварыш! Хай яна проклята будзе, насільная дарога! Ты ведаеш, брацішка, да таго змучыўся, што, як-бы табе сказаць, ссухарэў. Высмакталі сок, от што. Аднаго разу...

— А конь яшчэ гарны.

Чырвонаармеец стаяў, абхапіўшы вялікімі рукамі шашку. Салабута з любасьцю назіраў дрыжаньне жылак і рух яго пальцаў.

— От мой сын Хведар...

— А ну, ну!

— Ён слабейшы за цябе, але разумны. Сярдзітая была бойка?

— Ат, так сабе.

— Мабыць-жа народу палягло—аяй! Нясуць людзі галовы, як гарбузы, а сыплюць, як мак.

— Сыплюць, таварыш...

Чырвонаармеец уздыхнуў, хацеў яшчэ нешта сказаць, нахмурыўся і выпусьціў шашку.

— Навошта тое пекла, калі цяпер на зямлі пекла.

Чырвонаармеец думаў.

— Як кажуць, і ў пекле пекне, а тут як каму. Ссухарэў я, брацішка. Мо яшчэ дасі закурыць?

— На.

Чырвонаармеец вытрас кішэню.

— Курэц я, брацішка, заядлы, люблю курнуць.

— Оцэ гарно, а выпіць?

— Не, бо мой бацька быў п'яніца, то я ня ўжываю.

Чырвонаармеец пільна глядзеў на Ваську.

— Што, разумны конь?—запытаў задаволены Салабута.

Чырвонаармеец адказаў нехаця і рэзка:

— Я, таварыш, пры паходзе на Халопенічы, пяць вёрст адсюль, загубіў свайго каня. Быў конь Мэтэліця, ездавы конь, біс, а ня конь, стэпавік. Яму асколкам рассадзіла бруха. Мусіў загубіць. Куляй у вока, каб ня бачыў доўгае сьмерці. Оцэ я зараз пешы кавалерысты. Мой эскадрон сячэ шляхту. Эх, Мэтэліця!

Нездагадлівы Салабута зразумеў усё. Як бацян, стаў каля Ваські і кінуў папяросу.

— Таварыш, я каня ня дам. Мне мой конь дарагі. Мне ён кроўю прыйшоўся. Ты, брацішка, забіраць ня думай, сам ведаеш, што значыць конь. Калі гора табе, дык не рабі гора мне.

Чырвонаармеец насьмешліва і хмурна церабіў пояс.

— Чаго спужаўся! Ня буду браць каня.

— Я так і знаў, што ты чалавек.

Вінаваты Салабута моцна патрос яго за руку.

— Дзякуй, брацішка! Ты—мой збавіцель.

— За што дзякуеш, хіба я цябе збаўляў?

— І ты, і вашы, і чырвоная армія. Мы цяпер зажылі, брацішка. Я дадому паеду. У нас там яблыкі сьпеюць, грушы-сапяжанкі.

— Эх, Мэтэліця!

Чырвонаармеец нясьмела палажыў шырокую далонь на Ваську, шыбка ляснуў яго і забіў авадня.

— Ты знаеш, таварыш, кавалерыстаму без каня нядобра, праўда, нядобра.

— Гэта я знаю.

— От, каб у мяне два было, аддаў-бы табе аднаго.

— Ат, што гаварыць! Быў у мяне свой конь.

— І, кажаш, у вока?

— Каб ня любіў-бы, то не застрэліў. Усёроўна як сам сябе застрэліў. Я бяру вінтоўку, а ён і голаў падвярнуў, каб ямчэй.

— Ой не кажы, не кажы!—замахаў рукамі Салабута.— Я разумею тваё гора, але чым-жа я табе памагу, брацішка, не аддам-жа я табе свайго каня.

— Та я й не бяру.

Чырвонаармеец нерашуча гладзіў Васькаву шыю.

— Та якэ-ж я права маю браці чужога каня.

— От, брацішка, адразу відаць, што ты чалавек. Бо другі ня пытаў-бы права.

— Та якэ тут права. Мае баштаны дома ворагі патаптали, та 'шчэ й насьміяліся. У мяне ў грудзях боль кіпіць. Я сэрца маю. От-жа сэрца ня дам стаптаці, на волю сваю ня дам пляваці. Будзе нам вяліка бітва, але здолеем. Эх Мэтэліця, ясныя твае вочы!

Чырвонаармеец так прыціснуў руку да Ваські, што той адсунуўся.

— У мяне сястра ёсьць, так ёй махноўцы гвалт учыніць хацелі, так яна сама таго махноўца касою зарэзала, так яны за косы цягалі, а яна землю грызла паміраць не хацела. Так я-ж не дарую! Та яна-ж краля была, подступу ня было, як зьмеі косы чорныя, жыці хацела. Та няма сястры мае. Та я-ж не дарую! Таварыш дай мне каня!

Салабута захінуў халат і выпрастаўся бледны.

— Не магу, брацішка.

Чырвонаармеец адышоў і стаў паводдаль.

— Брацішка, не карай мяне, пашкадуй мяне адзінокага ў чыстым полі! Я век патолі ня ведаў. Слабы я.

— Та я свайго бацька маю, 'шчэ ўсі жыці хочуць.

— Брацішка, любы мой брацішка!..



Кавалерысты паехаў шпаркім бегам.



На краі глінішчаў стаяць два чырвонаармейцы: конны і пешы.

Дзямян Салабута задрыжаў як ліст, кінуўся да Ваські галавою ў жорсткія рэбры і зарыдаў нястрымана.

— Харчаваў я цябе, мой конік, жарабяткам, а цяпер паглядзі, як я, зьвекаваўшы плачу!..

Ён павіс на кані, рваўся і ня бачыў сьвету. Чырвонаармеец прысьмірэў, апусьціўшы рукі.

— Навошта мне маё жыцьцё, брацішачка. Ідзі сабе, прабач мае паніжэньне, ідзі сабе.

Чырвонаармеец падышоў і паважна ўзяў Салабуту за плечы.

— Ты чаго разьмяк, таварыш?

— З жыцьця зьбіўся.

— Нічога, будзе новае.

Яны пазіралі адзін на аднаго, нейк шчыра пагадзіўшыся, двое далекіх чужых людзей, задумліва і засмучона.

— Яжджай здароў! Не памінай ліхам!

— Бывай, таварыш!

Чырвонаармеец хутка падняўся на абрыў і пайшоў, не аглядаючыся. Цьвёрдая постаць яго са звонам калыхалася па дарозе. Салабута замітусіўся і раптам пацягнуў Ваську.

— Пастой, пастой!—закрычаў ён спустошаным голасам.

Чырвонаармеец вярнуўся ня скора.

— Ты што, таварыш?

Салабута падвёў Ваську.

— На вазьмі майго каня!

— Я не вазьму.

Салабута ўсунуў яму повад.

— Вазьмі, брацішка, прашу цябе!

Чырвонаармеец ніякавата таптаўся.

— Не шкадуеш?

— Шкадаваць буду, калі ня возьмеш.

Чырвонаармеец асьцярожна пагладзіў Ваську, зьмерыў поглядам заклапочанага Салабуту, адступіў паўкрока і лёгка сеў верхам. Твар яго азалаціўся сонцам. Салабуце пад ногі лёг ценярыс.

— Хай і мая памятка паможа табе!—пажадаў Салабута скромна.—Бывай, таварыш.

— Бувай, тато... мій рыдний!—адказаў той мякка і глуха.

Кавалерысты паехаў шпаркім бегам. Аграмадная шашка яго зграбна прыстала да Ваські.

Зьняўшы шапку, Салабута стаяў нярухома з вачамі поўнымі сьлёз. На чорных скронях серабрылася сівізна.

„Цяпер я вольны, вольны, іду дамоў вольны, вольны. Ніхто не папракне, не пазайздросьціць".

Чок, чок! цю-і-і! ту-туі-туі-тау-у!..

Ч-у-у! у-у-у! у-у-у!—капала расстраляная зямля.

# АТРОХ І КАРП

**Нарыс і фота ІЛ. БАРАШКІ**

Атрох і Карп—аднафамільцы. Шуранковы. Атрох Шуранкоў—серадняк. Карп Шуранкоў—кулак. Атроха клічуць у колгас - ён ня ідзе. Карп—прасіўся ў колгас, яго ня прынялі.

У Атроха Шуранкова хутар. На хутары двое коняй, тры каровы, восем пахаці. У Карпа - трое коняй, чатыры каровы, пятнаццаць пахаці, млын.

Атрох плаціць падатак у звычайным парадку. На гаспадарцы працуюць ён, жонка, двое сыноў і дзьве дачкі. Карп—індывідуальнік. Карыстаецца батрацкай сілай.

Атроха мы паехалі зазываць у колгас.



**...Круцялёў ня стрымаўся і тут са сваімі жартамі...**

Атроха ў хаце ня было. Дачкі сядзелі за калаўрозам, а старая маці шыла. Атрох быў на двары. Яго паклікалі.

— Ну сядайце, бацька! Чаму-ж гэта вы ня так, як усе людзі, чаму ў колгас ня пішыцеся?

Доўга працягвалася гутарка. І калі раней Атрох ні слова не хацеў і чуць пра колгас, дык сёньня ён сказаў:

— Вясной запішуся! І кароўкі адвяду! І конікаў!

Але назаўтра мы пачулі нядобрую вестку з Атрохавага хутара. Вечарам, таго-ж дня як мы былі ў Атроха, ён пайшоў да свайго знаёмага кулака Тодара Гурскага. Там візаць парашыў, што пісацца ў колгас ня будзе. Прышоўшы дахаты зьбіў конку да поўсьмерці, сыноў і дачок, сам надзеў два кажухі адзін наверх другога і пайшоў з хаты.

Цяпер пішэцеся ў колгас!..

Шуранковы дзеці на другі дзень запісаліся ў колгас. Атрохаў старшы сын разам з усімі колгасьнікамі ўзяўся за абсталяваньне Тарасавага хлява пад колгасных коняй.

У той-жа самы дзень раскулачвалі кулака Карпа Шуранкова.

Раскулачваньне, ліквідацыя вясковага міраеда на Рагачоўшчыне праходзіць адначасова з колектывізацыяй. Усе сродкі вытворчасьці кулака пераходзяць ва ўласнасьць колгасаў.

Калі на месцы пагладзець, з [illegible] уздымам, з якой энэргіяй сустракаюць асноўныя масы [illegible] кулацкую маемасьць, што пераходзіць ва ўласнасьць колгасу — уся веліч лёзунгу партыі аб раскулачваньні паўстае перад табой.

У канцэлярыі колгасу нас чакала чалавек дваццаць мужчын. Организацыйны пэрыод надзвычайна багата вымагае гутарак, разваг, ацэнак, клапот,—таму ў канцэлярыі поўна народу. Бязногі Цярэшка наліў газы ў лямпу і падвесіў пад столь. Цярэшкава жонка выставіла на прыпек гаршкі — пакарміць старшыню колгасу. Доўга яшчэ прыдзецца чакаць у Сьвятым электрычнага сьвятла і электрычных печак. Але дачакаюцца. Няхай праз пяць, няхай праз дзесяць год—але яны будуць. А покуль што Цярэшкавай жонцы яшчэ цяжка жыць: і абед на сям'ю звары, і абагуленых сьвіней даглядзь, — а катлоў яшчэ няма і цэлая печка загружана вядзёрнымі чыгунамі. Скардзіцца баба:

— Цяжка!..

Але Цярэшка — энтузіясты. Ён настойліва суцяшае:

— Дарма! Пацерпім! Будзе лягчэй!

Не пасьпеў, як кажуць, Міхась Шырко глынуць першую лыжку затоўчанай кіслай капусты, як зарыпелі дзьверы і адразу з дзьвярэй пачулася:

— Прыехалі! Выгружаць трэба!

— Сёньня раскулачылі Карпа Шуранкова, ідзеце прымаць коняй, кароў і насеньне, — зьвярнуўся да Шырко старшыня Сьвяцкага сельсавету дэмобілізаваны чырвонаармеец таварыш Казлоў, і сам цяжка сеў на ўскрай лавы.

Старшыня Сьвяцкага калгасу Міхась Шарко.

На дварэ зорная, ядраная ноч. Валам пасыпаліся мужчыны з канцэлярыі. Ні слова спачуваньня раскулачанаму Карпу Шуранкову, затое колькі энэргіі і энтузіязму ў старых барадатых дзядзькоў!..

Круцялёў ня стрымаўся і тут. Пад агульны, радасны сьмех прагучэлі яго словы:

— От гэта, чырвоны абоз! Сьпярша мы вазілі чырвоным абозам, а цяпер і да нас вязуць—Шуранковы.

Але не Шуранковы прывезьлі ў колгас насеньне, коняй і кароў. Нацыяналізаваная сельсаветам маемасьць кулака проста напраста перадаецца ў колгас.

„Чырвоны абоз" складаецца з пяці санак. На санках скрыні з пшаніцай, кублы з ільняным семем, мяхі з аўсом і ячмянём.

— Ямжджайце проста пад магазын!

— Там і важыць будзем?

— Там!

— Заварачвай каня, сюды!

— У скрыні пшаніца!

— Хлопцы, асьцярожна, па цемнаце не пераблытайце збожжа,— чутны галасы з поцемкаў, з загружанага да столі насеньнем калгаснага магазыну.



**..Колькі энэргіі і энтузіязму ў старых барадатых дзядзькоў.**

— А ячмень, сукін сын, быў схаваў. Думаў, ня знойдзем, у засьценку. Знайшлі!...

— Гэта-ж падумаць. — аднаго толькі ільнянога насеньня пятнаццаць пудоў!

Спрытна ўзьлятаюць пяціпудовыя мяшкі са збожжам ажна пад столь у магазыне. А там вобмацкам пазнаецца пшаніца, ячмень, авёс ды ссыпаецца ў засекі. Таму і гучыць паўторны загад у цемень ночы:

— Не пераблытайце там збожжа...

Маемасьць кулака Шуранкова ў колгас прынялі. Праца скончана.

Ўсе гуртам вяртаюцца нанава ў Цярэшкаву кватэру—канцэлярыю колгасную. Гутараць, вырашаюць справы, разьмяркоўваюць самых сябе колгасьнікі для ацэнкі маемасьці новых колгасьнікаў. Апошні колгасьнік выходзіць з канцэлярыі пасьля першай гадзіны ночы.

А калі я застаўся адзін на адзін з бязногім Цярэшкай, ён чыкільгаючы падсеў ля майго ложка з запытаньнем:

— Скажэце, няўжо так колгас, значыць мы, і не заплоцім кулаком за іхнюю жывёлу і насеньне?

І другое пытаньне непакоіць Цярэшку:

— Куды-ж гэта нам дзець раскулачаных трыццаць пяць кулакоў па нашым сельсавеце?..

* * *

Кулак пачуў пра сваю сьмерць. Па-рознаму сустракае кулак сваю ліквідацыю. Адны спакойна чакаюць гэтага, другія хаваюць насеньне і рэжуць жывёлу так, каб ніхто ня бачыў, а трэція рыхтуюцца да свае сьмерці сьвядома — пачынаюць нішчыць маемасьць і гуляюць праз цэлыя дні і ночы. Адзін з кулакоў Сьвяцкага сельсавету зарэзаў карову, накупляў гарэлкі і тры дні спраўляў дзікі, апошні баль. Калі раскулачвалі—ён ляжаў на ложку ўдрызг п'яны і нават не павярнуўся.

Што гаворыць бедната? Што гаворыць серадняк?

Бедната гаворыць

— Туды іх такую...

Цэлы дзень працуй на іх бывала за поўрубля, ды яшчэ прасіся, каб узяў на работу Няхай от цяпер пабудуць такімі беднякамі, якімі былі мы



**Будынак у мястэчку Гарадзея, дзе зьмяшчаецца оргбюро агракомбінату „Гігант“.**

— Раскулачылі—так і трэба. Раней бывала жонка за пяцьдзесят капеек цэлы дзень працавала, ды яшчэ ў бярэзьнік стараўся зацягнуць... Вядома, выгуляецца, нічога ня робячы, і жыруе...

Серадняк гаворыць крыху інакш:

— І тыя, хто больш за ўсіх гаварыў, што ўлада слабая, цяпер таго ня кажуць.

— Паглядзеце, бачылі вы, аж брыскі ляцяць, як сыплецца насеньне, ды бяжыць жывёла ад кулака ў колгас...

Так ліквідуецца кулацтва як кляса.

## У БАРАЦЬБЕ ЗА КУЛЬТУРУ



**Ліквідацыя няпісьменнасьці дэлегатак на гуце „Пролетары“ (Менск).**



# У адноўленым Капылі

Янка Шкадарэвіч



Агульны выгляд Капыля з Замковае гары.

Калі ўлетку 1920 году па мястэчку разьнеслася весткa, „палякі адступаюць, іх гоняць ад Бярэзіны",—у момант былі арганізаваны чырвоныя партызанскія атрады з працоўных сялян. Імі напоўніліся капыльскія лясы. Мястэчка Капыль стала цэнтрам партызанскага руху.

— Каб ня чырвоныя партызаны, дык мястэчка Капыль было-б напэўна спалена,—кажуць зараз капыляне. Яны прыпамінаюць, як чырвоныя партызаны пры дапамозе падасьпеўшай Чырвонай армії нанесьлі белапалякам рашучы ўдар, як у адну з ліпнёвых начэй „ва Каменшчыне" глуха вухкалі гарматы,—то Чырвоная армія пасылала падарункі белапалякам.

Упарта змагаліся капыляне за савецкую ўладу, дапамагалі і заваявалі яе.

* * *

Вечар і цемень ночы агортвае зямлю. Завярцеліся калёсы дынама-машыны. Па правадох пабегла электрыка, запаліліся ў момант усе ліхтары ў мястэчку і сьвятло электрыкі заліло вуліцы, асьвятліла хаты капылян.



А было зусім нядаўна, што ў шмат якіх хатах беднякоў гарэлі лямпачкі-газаўкі, а па-капыльску кажучы, „смаркачыкі".

Нядаўна, месяцы чатыры таму назад, і ў майго суседа — бедняка Рыгора Шкілевіча стаяла газоўка на прыпечку ды ледзь-ледзь асьвятляла яго хату. Сягоньня і ў яго вісіць лямпачка Ільліча і асьвятляе кожны куток яго хаты. Праменьні электрыкі заглядаюць і на печ, дзе вечарамі грэецца „дзядзька" Рыгор. Ён часамі пільна глядзіць на гэтую электрычную лямпачку, прыцягвае яе да сябе, гладзіць, аглядае з усіх бакоў, ды з нейкаю нявыказанай радасьцю гаворыць:

— Ці-ж думаў хто даўней, каб у гэтым далёкім захалусным мястэчку была электрычная станцыя і каб у мяне замест газоўкі гарэла электрычная лямпачка? Дзе там! Гэта сталася толькі пры таварышох. Гэта ўсё яны зрабілі.

Так, бальшавікі пабудавалі электрычную станцыю ў далёкім маленькім мястэчку! Комбінат: электрычная станцыя, мукамольны завод, пільня, сукнавалка, крупадзёрка і двухвальцоўка—каштуе каля 75 тысяч рублёў. Гэта ёсьць маленькая частка таго вялізарнага будаўніцтва, што ахапіла зараз далёкія месцы ў розных кутках Савецкага Саюзу.

* * *

Яўрэя Каваленчыка я памятаю такім: быў у яго агарод, сеяў агуркі, прадаваў іх на рынку і з таго жыў. Быў і зараз яшчэ астаўся балаголам. У студзённую зімовую ноч, у дажджлівую восень, у вязеньняе разводзьдзе едзе ён у падводы, шукае пасажыра, каб зарабіць рубель-другі на пражыцьцё. Такіх, як ён, у м. Капылі шмат. Яны едуць і ў Менск, і ў Слуцак—гэта так званыя „штатныя" балаголы. Апрача іх ёсьць і такія, што едуць ад вёскі да вёскі. А колькі краўцоў, шаўцоў, гарбароў, сталяроў з яўрэяў? Іх шмат.

А вось татарын Байрашэўскі Х. Яго дзед, яго бацька і ён—адвечныя гарбары. Іх у мястэчку таксама шмат. Яны пасяліліся ў даліне каля рэчкі, каб бліжэй было насіць мачыць скуры. Сыра ў хаце татар, пахне скурамі, але „мы ўжо так прывыклі, што здаецца нічога",—кажа Байрашэўскі. Яго жонка, як шмат другіх татарак, улетку ўвесь час сядзіць у агародзе. Раньнюю расаду капусты ды бручкі ўвесну можна знайсьці толькі ў татар—яны на гэта спэцыялістыя.

Размаўляў з стальмахам-саматужнікам П. Дзямідовічам. Ён мае толькі хату, хлеў, агарод.

— Цяжка пражыць з такой гаспадаркі, дык вось навучыўся рабіць калёсы, гну абады, абы толькі зарабіць які рубель на пражыцьцё ды на абутак,—кажа Дзямідовіч. І далей:

— Цяжка, ведаеце, працаваць аднаму, разгінаць гэтыя абады ды нацягваць на сьпіцы. Стары ўжо я, дык сіл не хапае,—крыўдзіцца саматужнік-стальмах „дзядзька" Паўлюк.

А вось і „гаспадар" Андрэй Шкірыч. У яго сям'я вялікая—7 душ, а зямлі 3 гектары.

— З гэтай зямлі я павінен і пракарміцца, і апрануцца; вядома, што хлеба свайго не хапае, прыходзіцца то з сякераю, то з пілкаю, то з лапатаю шукаць работы па людзях каб знайсьці дзе кавалак хлеба. А дзе знайсьці, дзе зарабіць? Заработку няма. Такіх, як я, у мястэчку шмат.

Ёсьць у мястэчку і „канкулёўныя" людзі, інакш кажучы, кулакі, гандляры. Гэтыя „канкулёўныя", па-капыльску кажучы, людзі надта „пракіткі" народ. Яны захапілі ў свае рукі ўсе крыніцы прыбыткаў і жорстка эксплёатавалі бедната мястэчка. І ня дзіва, калі толькі пачалі гаварыць пра організацыю ў Капылі колгасу, пра зямлябудаўніцтва, дык кулакі, гандляры заварушыліся.



Комбінат. Уверсе—лесапілка. Унізе—на электрастанцыі.

Яны зрывалі сходы і падкуплівалі беднякоў, каб апошнія ня ішлі ў колгас. Запужвалі пабоямі, падпаламі, аднак усё гэта не дапамагала. Беднякі, батракі, разам з серадняками ўсё-ж такі настойвалі на сваім: змагаліся за колгас. Кулакі і іхныя падпявалы два разы падпалілі гумны беднякоў-колгасьнікаў таварышоў Балогі і Іваноўскага. Але ні пагрозы, ні падпалы ня стрымалі вялікага руху бядняцка-серадняцкіх мас. Колгас усё-ж такі быў організаваны на плошчы да 3-х тысяч гектараў. Яму далі назву імя „Варашылава", у яго ўвайшлі людзі розных нацыянальнасьцяй, людзі розных профэсій. Саматужнікі організоўваюць паасобныя цэхі: шавецкі, кравецкі, ткацкі, кавальскі, гарбарны, усе яны будуць працаваць па сваёй спэцыяльнасьці. Сяляне-ж беднякі і серадняки працавалі ўжо на агульным полі. Аб іхнай працы ў позьнюю восень і расказалі нам калгасьнікі-варашылаўцы.

— Значыць, організавалі колгас; у яго ўвайшло 101 сямействаў капылян,—пачаў сваю гутарку колгасьнік Мікалай.—Праз некалькі дзён пайшлі на працу. Сотні коняй, запрэжаных па пары ў плугі, выехалі за мястэчка. Наперадзе ішлі колгасьнікі-варашылаўцы з чырвоным сьцягам, з лёзунгамі „за буйную колектыўную гаспадарку", ды пяялі:

„Таварышу Варашылаву і ўсёй Чырвонай арміі
Мы—колгасьнікі шлём свой прывет...

І гучнае

„Гранем ура!.."

падхоплівала апошнія словы песьні, і гімн новай колектыўнай працы разносіўся па шырокіх палёх.

А калі сталёвыя плугі пачалі заворваць спрадвечныя межы, руйнаваць іх, капыляне-колгасьнікі паглядалі адзін на аднаго, некаторыя крывіліся, некаторыя ўсьміхаліся ды казалі:

— Твая, Нічыпар, паласа ды мая,—**н а ш ы**. Ну знайдзі цяпер, дзе была мяжа, яна зьнішчана!

Так, межы на капыльскіх палёх у большасьці ўжо зьнішчаны, заворваны. Вясною будуць зьнішчаны астатнія. Вясною сталёвыя „коні" будуць разьяжджаць па гэтых шырокіх палосах. Яны ўзьнімуць цаліну ў „Маргох" і „Стагектарках", дзе раней былі хмызьнякі ды карчы, у лістападзе месяцы мінулага году працавалі сотні колгасьнікаў.

Адзін капае зямлю каля пня, другі кол закладае пад яго і дружнае, колектыўнае „возьмем, шчэ раз"—выварочвала хваёвы пень на паверхню зямлі.

За некалькі дзён колектыўнай працы пасекі „Маргі" і „Стагектарках" у большасьці сваёй прынялі зусім другі выгляд.

— Агулам лягчэй працаваць, спарней,—кажуць зараз капыляне.

* * *

Асьветлены электрычным сьвятлом Капыльскі нардом 13 студзеня ня мог зьмясьціць усіх колгасьнікаў-варашылаўцаў. Прыйшлі старыя, маладыя, мужчыны і жанчыны, каб паслухаць ды абгаварыць на пашыраным прэзыдыуме Капыльскага Райвыканкому пытаньне аб перадачы Капыльскай царквы пад культурныя патрэбы колгасу імя Варашылава.

1.137 колгасьнікаў падпісаліся пад заявай і настойліва патрабавалі, каб з царквы зрабіць клюб.

— Мне ўжо каля 50 гадоў, я ня веру ў бога, бо пераканаўся, што рэлігія гэта дурман для народу, лічу, што царкву



**Сельска-гаспадарчы куток у нардоме.**



**Комбінат. Мукамольнае аддзяленьне.**

патрэбна перадаць у распараджэньне нашага колгасу,—так казаў колгасьнік-бядняк А. Шкірыч.

Яго словы—гэта патрабаваньне ўсіх колгасьнікаў, усіх беднякоў, батракоў, серадняко́ў. Гром воплескаў раз-по-разу раздаваўся ў залі.

Апладавалі тым, хто выступаў за перадачу царквы пад культурныя патрэбы колгасу. „Вон кулацкіх і папоўскіх падпявалаў з залі!"—крычалі тым, хто імкнуўся сарваць гэты сход.

Як і кожнае новае мерапрыемства партыі і ўлады для паляпшэньня дабрабыту працоўных мястэчка, так і зараз у момант перадачы царквы пад культурныя патрэбы змагалася старое з новым, социялістычным, уступаючы месца новаму.

У мястэчку Капылі вялікая каменная царква зараз стала месцам, куды ссыпаюць насеньне, каб вясной засеяць агульнае поле—поле колгасьнікаў-варашылаў. Перадана пад дом культуры вялікая яўрэйская сынагога, а таксама татарская мячэць.

У нардоме, зараз гучыць радыё ды пускаюцца „туманныя карціны", інакш кажучы, кіно. Кіноапарат набыты два гады таму назад за ўласныя сродкі і цяпер кіно бывае два разы на тыдзень. У нардоме працуюць гурткі: сельска-гаспадарчы, драматычны, політычны, харавы, шахматны. Кожны вечар у нардоме бываюць сотні колгасьнікаў.

— Ну, як не зайсьці, калі там кожны вечар цэлае сьвята,—казаў малады колгасьнік Мікалай.

* * *

А лістаносец Алесь Крайнік „крыўдзіцца", што за апошнія месяцы надта павялічылася выпіска газэт. Сумка ня можа зьмясьціць усіх газэт, дык прыходзіцца зьвязваць іх у кіпы і так разносіць падпісчыкам.

У мястэчку Капылі выдаюцца свае вусныя газэты: „Капыльская Праўда" ды яўрэйская вусная газэта. Яны карыстаюцца вялікім аўторытэтам у насельніцтва.

Культурна-політычны ўзровень колгасьнікаў - варашылаўцаў значна ўзрос.

На раённым зьезьдзе колгасьнікаў, які адбыўся ў студзені месяцы гэтага году, можна было чуць:

— Кулакі, папы і сэктанты імкнуцца разбурыць існуючыя колгасы!

— Выселіць усіх кулакоў з тэрыторыі колгасу імя Варашылава ды з раёну, перадаць іхную маемасьць колгасам!—вось патрабаваньні колгасьнікаў.

— Патрабуем ад нашага ўраду выпуску першага займу колектывізацыі, абяцаем усе, як адзін, набыць аблігацыі гэтае пазыкі,—так ухвалілі ў сваёй рэзолюцыі колгасьнікі раёну.

* * *

Праз год-другі Капыль не пазнаеш. На шырокіх колгаскіх палёх вырастуць цагельні, вапенныя заводы, адзін ужо зараз дзейнічае. Будзе свой завод па перапрацоўцы садавіны, малочны завод ды тарфяны. Організоўваецца вялікая сельска-гаспадарчая майстэрня, дзеля чаго адпушчана 30 тысяч рублёў. У гэтай майстэрні будуць каваццa сталёвыя плугі ды рамантавацца сталёвыя „коні"—трактары. У гэтай майстэрні яшчэ гучней будзе раздавацца песьня:"

„Мы, ковалі, з юнацкім духам
Куём мы будучыні дні...",

якую і зараз пяюць колгасьнікі-варашылаўцы. Увесну і ўлетку жнеі на шырокіх колгаскіх палёх зацягнуць новую колектыўную песьню—песьню социялістычнай перамогі.

# ПАМІРАЕ СТАРОЕ МЯСТЭЧКА











На малюнках зьлева: комбінат. Ніжэй—
ніжэй—ачыстка збожжа ў былой

**П**АМІРАЕ стары Капыль. Старога Капыля ўжо няма, праз гады два яго ўжо зусім нельга будзе пазнаць. Памірае стары рамесьніцкі і вясковы Капыль. Зараз у Капылі ёсьць комбінат—электрастанцыя, млын, лесапілка ды іншыя прадпрыемствы. Гэты комбінат ужо зьмяніў твар старога Капыля, надаўшы яму, хоць і ў надзвычайна малой форме, але ўсё-ж нейкі індустрыяльны выгляд. Капыль колектывізуецца. Ствараюцца рознага роду арцелі і саматужныя колектывы, якія супольнымі сіламі шпарчэй будуць рухаць уперад справу колектывізацыі Капыльшчыны.





Рэволюцыя ўвайшла ў быт. Па жаданьні насельніцтва ліквідавана царква і перадана колгасу пад сьвіран. Колгасьніцы здымаюць абразы, крыжы. Бязумоўна, гаварыць аб поўным бязбожжы яшчэ рана. Нават некаторыя з тых, што крыжы здаюць,—усё-ж зусім яшчэ не адмовіліся ад старых рэлігійных забабонаў. Пройдзе год, другі, новыя абставіны, новыя ўзаемаадносіны, усё бачанае і пачутае на чытках, у гуртках, урэшце самы процэс колектыўнай работы, зробяць свой уплыў на псыхіку, паступова зусім сьцірацца будзе рэлігія, зьнішчацца забабоны.

Агульны заняпад рэлігіі характэрны і для яўрэйскай і для беларускай часткі мястэчка. Зьнікла субота, як і нядзеля. Адзіны бесьперапынны тыдзень зьнішчыў і тую вонкавую рэлігійнасьць, якая дзе-ні-дзе захавалася.

Агульнай думкай апанавала машына. Маючы электрастанцыю, местачковы колгас можа добра наладзіць апрацоўку сельскагаспадарчых продуктаў.

— Вось нам-бы трактараў крыху, тады шпарчэй пайшло-б.

Таксама наконт агрономічнай няпісьменнасьці. Кульгае яна ў нас,—гавораць у мястэчку. Патрэбнага масавага рухуза агрономічную пісьменнасьць яшчэ няма, але відаць, што сёлета Капыль дасягне посьпеху і ў гэтай галіне.

Расьце культурны ўзровень насельніцтва мястэчка. Пабудаваны будынкі для беларускай і яўрэйскай сямігодак. Разгорнута сетка школ і пунктаў па ліквідацыі няпісьменнасьці.

Вялізарнымі крокамі адрываецца Капыль ад свайго абывательскага мінулага. Соцыялістычная колектывізацыя перабудуе Капыль на новы лад.

Новае жыцьцё будуюць сабе працоўныя масы Капыльшчыны. Яны гэтае жыцьцё збудуюць, бо ведаюць мэту, да якое ідуць. Назва гэтае мэты—комунізм.





...ьлева: комбінат... ...стка збожжа ...іжэй —гарбарная арцель. Яшчэ ніжэй—рамонт колгаснага інвэнтару. У сярэдзіне—Нясьвіская вуліца, ...млой царкве ў часе падрыхтоўкі да сяўбы. З правага боку—яўрэйская і беларуская сямігодкі. Унізе—сыраварная арцель.



# СТРАКАПЫТАЎСКАЕ ПАЎСТАНЬНЕ

С. КАШТАЛЯН

У ГОМЛІ на рагу аднэй з бязьлюдных вуліц, прытуліўся маленькі скверык. У баку на варотах прыбіта чорная дошка. На ёй белымі літарамі:

— Сквэр 25-га сакавіка.

Штогод—вось ужо на працягу адзінаццаці гадоў—у дзень 25-га сакавіка рабочыя Гомлю прыходзяць сюды да сквэру, да каменнай пліты, каб схіліць сьцягі і галовы перад брацкай магілай дваццаці пяці комунараў, геройскі загінуўшых у змаганьні за рэволюцыю.

Контррэволюцыйнае сакавікоўскае паўстаньне ў Гомлі ў 1919 годзе вядома пад назвай „Стракапытаўшчыны" і зьяўляецца вельмі характэрнай старонкай з гісторыі расійскай контррэволюцыі за апошнія адзінаццаць год.

У сакавіку 1919 г. „вярхоўны правіцель" Калчак пачаў наступ на Паволожжа. Па ўсёй тэрыторыі Савецкае Расіі ліхаманкава пачалі працаваць белагвардзейскія агенты і шпегі: ім трэ' было разбурыць чырвоны тыл.

Былы палкоўнік царскае арміі Стракапытаў з групай другіх белагвардзейцаў абраў месцам сваёй дзейнасьці Гомель, дзе і распачаў разам з мясцовымі чорнасоценцамі падрыхтоўчую работу сярод гомельскага гарнізона, скарыстоўваючы харчовы крызіс, які перажывала тады Палесьсе. Сярод вайсковых часьцей, што знаходзіліся тады ў Гомлі, быў так званы „Расійска-Тульскі атрад", які складаўся з двох палкоў. Чырвонаармейцы гэтых палкоў станавілі сабою цёмную шкурніцкую дробна-ўласьніцкую масу, сярод якой панавала толькі адно жаданьне—парабаваць—і дадому!

У сакавіку тульскі атрад быў накіраваны на Калінкавіцкі вучастак польска-пятлюраўскага фронту.

Контррэволюцыйныя агенты выкарысталі гэты момант, распаўсюдзілі сярод іх провокацыйныя чуткі аб тым, што палякі супроць іх групуюць вялікія сілы, і іх, значыцца, пасылаюць на нямінучую сьмерць. У ноч з 23 на 24 сакавіка на чыгуначную станцыю ў Гомлі пачалі прыбываць эшалёны паўстанцаў, што кінулі фронт. Спробы Гомельскага Павятовага Камітэту РКП распачаць перагаворы засталіся бяз жадных вынікаў. Дэлегатаў сустрэлі з кулямётам.

Быў організаваны вайсковы штаб. У руках штабу засталося толькі каля трохсот чалавек комуністых, атрад міліцыі і невялічкі інтэрнацыяльны атрад „ЧК". Была прынята пастанова аб супраціўленьні, маючы надзею на хуткае прыбыцьцё дапамогі.

Штаб і галоўныя ўзброеныя сілы, што знаходзіліся ў яго распараджэньні, расьмясьціліся ў гасьцініцы „Савой". Вечарам 24 сакавіка „паўстанцы" пачалі захопліваць горад. Па гораду пачаліся рабаваньні, гвалтаваньні, забойствы. Уночы рабаўнікі пад кіраўніцтвам Стрэкапытава абложылі „Савой" і адрэзалі яго зусім ад знадворнага жыцьця. У „Савоі" ў гэты час засталося ўсяго толькі каля 150 тварышоў. Ня гледзячы на малую колькасьць, яны ўпарта абаранялі сваю „цытадэль" „Савой".

Раніцою 25 сакавіка а другой гадзіне дня „Савой" быў узяты паўстанцамі. Пачалося зьверскае зьбіваньне арыштаваных. Досьвіткам, у суботу 29 сакавіка паўстанцы, пад напорам чырвонага войска, пакінулі горад. Уцякаючы, яны падпалілі палац б. князя Паскевіча. Дваццаць пяць комунараў, якія на працягу гэтых чатырох дзён трымаліся арыштаванымі ў вагоне, стрэкапытаўцы напярэдадні ўходу расстралялі.

Чырвонае войска, што ачысьціла савецкі Гомель ад банды Стрэкапытава, знайшло зьнявечаныя трупы дваццаці пяці комуністых, там, дзе цяпер разьбіты сквэр і высіцца брацкая магіла тых, што былі адданы справе працоўных да самай сваёй сьмерці.





Уверсе—помнік ахвярам стракапытаўшчыны ў Гомлі.
Унізе—гасьцініца Савой.

# У СЬПЕВАХ МАШЫН

МІХАСЬ ВІСАЖАР

Вясна жыцьцёвая
У напружнай творчасьці,—
Агністым росквітам
Палае квець...

Краіна новая.—
Мы ў ёй рабочыя
Машынным рокатам
Пачалі пець...

І песьня іскрыстая
У заводзе сёньнешнім
Тугу разьвеяла
У віхорны ўздым...

І гладзь празрыстую
У прасторы сонечным
Дызэльным вэерам
Цалуе дым...

А мы тут горнамі
Пад тэмп напорасты
Бурлівай зорнасьці
Будуем дом...

І ў нас задорна так
Пад соцспаборніцтва
У машыннай звонкасьці
Расьце жыцьцё...

Ліства жыцьцёвая
Электра-хвалямі
У брыгадным шэлесьце
Пяе, зьвініць...

Тут моц сталёвая
У ліхой дынаміцы
У працы сьпеліцца
І сьпеліць дні...

Вясна бурлівая
У напружнай творчасьці
Агністым росквітам
Палае квець...

Заводы з нівамі,—
Мы ў іх рабочыя
Машынным рокатам
Пачалі пець...

# РЫХТУЕМСЯ ДА БАЛЬШАВІЦКАЙ СЯЎБЫ



Вялізныя задачы, пастаўленыя пролетарыятам у парадак дня, патрабуюць ад сельскае гаспадаркі надзвычайна напружаных тэмпаў работы. Зразумела, што малады рух колектывізацыі ня змог-бы справіцца з выкананьнем гэтых задач. Рабочыя гораду ўлічылі гэты факт і на колектывізаваную вёску адправіліся рабочыя брыгады для падрыхтоўкі да бальшавіцкай сяўбы. На здымках — адна з рабочых брыгад праводзіць рамонт сельска-гаспадарчых машын.

# ПАМЁР УЛАДЗІМЕР МАЯКОЎСКІ





**14 КРАСАВІКА** а 10 гадз. 15 хв. раньня ў сваім рабочым габінэце скончыў жыцьцё самагубствам вядомы расійскі поэта Уладзімер Маякоўскі.

Поэта нарадзіўся 7 ліпеня 1894 г. у сяле Багдады Кутаіскай губ. (Грузія).

Пасьля сьмерці бацькі-лясьнічага ў 1906 г. сям'я пераяжджае ў Маскву.

У 1908 г. поэта ўступае ў РСДРП (бальшавікоў) і працуе як пропагандысты. Некалькі раз арыштоўваецца за рэволюцыйную работу. За наладжваньне ўцёку жанчын-катаржан 11 месяцаў сядзіць у Бутырскай турме. Пасьля выхаду з яе адыходзіць ад партыйнае работы.

Захапляецца малярствам. Разам з поэтамі В. Хлебнікавым і Д. Бурлюком ён выпушчае першы маніфэст футурыстых—„Пощечина общественному вкусу".

Расійскі футурызм нарадзіўся сярод дробна-буржуазнае інтэлігенцыі ў той момант, калі на зьмену рэакцыі нарастала новая рэволюцыйная хваля. Яго ідэолёгічная сутнасьць—бунт супроць старога быту. Адмаўленьне старога густу, адмаўленьне старога быту, адмаўленьне старога ладу—характэрная асаблівасьць передрэволюцыйнае творчасьці Маякоўскага. Яго грубае цынічнае слова было ўдарам па буржуазным эстэтызьме.

Адштурхнуўшыся ад буржуазнае грамады, ён у цэлым шэрагу твораў, як, напрыклад, „Гимн обеду", „Гимн взятке" і шмат іншых, злосна зьдзекуецца над мяшчанствам, абураецца і протэстуе.

Імпэрыялістычная вайна адыграла значную ролю ва ўсьведамленьні бунтарства супроць „Сытых мещан". Яго антымілітарыцкія творы пачынаюцца непасрэдна з 1914 году вершам „Война об'явлена" і ідуць да 1917—1918 году. Поэма „Война и мир"—да краёў поўна протэсту супроць бясэнснае і злачыннае бойні. Усе творы гэтага часу прасякнуты паражэнчай ідэолёгіяй.

У чаканьні новага сапраўднага чалавека, у прадчуваньні яго прыходу, піша Маякоўскі сваю рэч „Человек", дзе гэты будучы чалавек пакуль яшчэ нудзіцца ў „Дневном иге", але гэтага будучага чалавека поэта ўздымае сьцягам, таму што ў ім зьліліся ўсе прыгнечаныя буржуазнай культурай, і яшчэ таму, што ў ім б'ецца такое нявымоўнае харство, што перад ім меркнуць сонца і месяц.

Увесь шлях Маякоўскага да 1918 году ўяўляе сабою нераспалосіцу інтэлігенцкага індывідуалізму і анархізму побач з сапраўдным рэволюцыянізаваньнем тэматыкі.

Калі пачалася Лютаўская рэволюцыя, поэта асабліва адчуў гарачы подых натоўпу, узьнятую вуліцу. Яго постаць на грузавіку (у лютым 1917 г. ён камандаваў аўтомобільнай школай—„Писатели-современники" стар. 148) была яркім сымболем злучэньня блізкіх да сябе імкненьняў.

Таму для яго ня было пытаньня: „прымаць ці ня прымаць Рэволюцыю". Ён аддаў усяго сябе на слугаваньне ёй. Кастрычнікавая рэволюцыя для Маякоўскага сапраўднае, бязумоўна-глыбокае перажываньне, бо сваімі пярунамі і маланкамі яна навалілася на тое, што Маякоўскі па-свойму ненавідзеў, з чым не пасьпеў яшчэ пaveriрыцца. „Рэволюцыйны індывідуалізм Маякоўскага ўліўся ў пролетарскую рэволюцыю".

Дзёрзкі, абвеяны вятрамі рэволюцыі, чулы да галасоў рабочае вуліцы, варожы мяшчанскаму духу сучаснае Эўропы, скінуўшы з сябе уладу ўсялякіх традыцый буржуазнага ладу, ён

## РЭДКІ ЗДЫМАК МАЯКОЎСКАГА

Маякоўскі ў Варшаве, у двары паўнамоцнага прадстаўніцтва СССР. Поплеч з ім—тав. А. Ульянаў, направа ад іх з фотаапаратам у руках — тав. Войкаў. Мабыць гэтую фотографію меў на ўвазе Маякоўскі, калі пасьля забойства Войкава пісаў:

„Вось гэтага
бачыў
за колькі хвілін,
сьмяяўся,
здымаўся поплеч.
І падае Войкаў
увесь у крыві,
І крывёю
газэты
намоклі.



# 1894—1930

стаў да канца поэтай рэволюцыі, выяўнікам яе імкненьня да будучыні.

У пасьлякастрычнікавай творчасьці поэты мы бачым яскравы прыклад мастака, які ня толькі слухае і чуе рытмы рэволюцыі, але і падпарадкуе свой крок гэтым рытмам. Свой талент ён цалкам аддае рэволюцыі, не баючыся „профанацыі мастацтва". Гэта яго вершамі і малюнкамі крычаць „Вокны Роста" тых узрушаных гадоў.

Яго па-новаму ўпэўненыя крокі, гэта пераможны тупат мільёнаў („Левый марш"). Гэта ўжо організаваны рух мас, якія, праходзячы перад вялікай магілай, упэўнена крочаць да свае мэты („В. И. Ленин").

Ён чула адгукаецца на кожную ноту будучыні. У яго вершах мы знойдзем і дзяржпазыкі, і новую Украіну Днепрабуду, і прывітаньне яўрэям-землеробам.

Поэма „Хорошо" зьяўляецца бліскучым сынтэзам усяе творчасьці поэты. Ён „С теми, кто вышел строить и месть в сплошной лихорадке буден" і краіну вітае „которая есть, но трижды которая будет". Як вясну чалавецтва вітае ён сваю краіну—СССР.

Рэволюцыя здолела паставіць Маякоўскага ў шэрагі барацьбітоў, у шэрагі актыўных будаўнікоў новага жыцьця. Яго поэзія—гэта поэзія вуліц, пляцоў, натоўпаў. Маякоўскі—поэта трыбуны, поэта соцыяльнага ўзьдзейнічаньня і соцыяльнага дзсяньня.




І вось катастрофа асабовых перажываньняў апошніх тыдняў, хвілінная слабасьць—і такая раптоўная нечаканая сьмерць...

Яго самагубства нельга ні апраўдаць, ні даравацъ...

Але гэтая ўзрушаючая асабовая памылка ніякім чынам ня можа зацяніць, засланіць постаць выдатнейшага поэты нашае сучаснасьці.

Яго творчасьць застаецца найлепшым узорам удзелу мастака ў палітычнай барацьбе рэволюцыйнае клясы.

# САКРЭТ МАЛАДОСЬЦІ

## ВЕРШ УЛ. МАЯКОЎСКАГА

Не,
ня той малады,
хто, зашыўшыся
ў лес ды на лодку
ці, пад рогат і клум,
у кусты,—
пачынае
гарэлкай
прамочваць
глотку.
Не,
ня той малады,
хто вясною
начамі прыгожымі,
апрануты
модна,
пусты,
падмятае
бульвары
клёшамі.
Не,
ня той малады,
хто усходы жыцьця
агнязарныя,
адчуўшы сьвет
у крыві,
па романах
разбазарвае.

Хіба
той малады?—
Не!

Мала
быць
на дваццатай вясьне.

Малады,
гэта той,
хто байцовым
прарэджаным строем
скажа
ад моладзі
ўсей:

Моладзь—
гэта гонар
жывы,

Для тых,
хто ўпаяны
ў КІМ баявы

І хто б'ецца,
каб працы дні
Былі
радасным
часам вясны.

Пераклад
Зьм. Астапенка

# МАЛАДЫ НЯМЕЦКІ МАСТАК-МАЛЯР

## ГАНС ГРУНДЫГ

У імкненьнях і шуканьнях ваенных і пасьляваенных часоў выкрысталізавалася ў Дрэздэне кола мастакоў-маляроў, якія гэтыя перажываньні паставілі сваёй грамадзкай задачай. Сьвядома адчувалі яны, што пануючыя клясы стварылі думку, што l'art pour l'art *), толькі для таго, каб прымусіць мастацтва служыць у сваіх мэтах. Яны дакладна даведаліся, што ім насупроць прыпала задачай заняць позыцыю і навучыцца бязьлітаснай і непадкупнай крытыцы. А гэта самае прывяло іх на старану прыгнечаных і эксплёатаваных. У змаганьні за сапраўдную чалавецкасьць зрабіліся яны ворагамі пануючага соцыяльнага ладу. Выходзячы з свайго пазнаньня, што мастак-маляр і яго мастацтва ня можа быць па-за сапраўднасьцю, шукалі і знайшлі яны шлях да шырокіх пластоў працоўнага народу, у які яны і ўліліся як неад'емныя члены яго цела, як актыўныя змагары яго шэрагаў.

З празьмернай амбіцыяй мастацкага малярства, якое прэтэндавала на асаблівае становішча ў грамадзе, яны змагаліся як з нікчэмнай ганарыстасьцю. У актыўным супрацоўніцтве штодзеннага жыцьця ўтвараліся іх нарысы, у сталых дачыненьнях да прыгнечаных напрашваліся іх усё новыя і новыя карціны.

Ганс Грундыг сярод іх наймаладзейшы і больш за ўсіх падаючы надзей. Непарушна, ня гледзячы на ўсе перашкоды, ідзе ён сваім шляхам. Яго малюнкі і карціны простыя, сумленныя і натуральныя, як і яго асабістае існаваньне. Нічога ненатуральнага, нічога штучнага. У яго творах супроць абыякага выступае сапраўдны твар сусьвету, які ён бязьлітасна бізуніць сваім карандашом. Заўсёды яго рысункі дзяцей—прызыў да чалавецкага сумленьня дапамагчы галадаючым, бязьвінна пакутуючым дзецям.



ГОЛАД — Малюнак Грундыга



БЯСПРЫТУЛЬНЫ — Малюнак Грундыга

Ад усіх гэтых бядотаў прачынаецца ў мастаку-маляру актыўны чалавек, які ведае, што суадносіны могуць быць зьменены не аднымі карандашом і палітрай, а толькі сьвядомым удзельнічаньнем у змаганьні народу. Ён дзейнічае як пропагандысты. Ён малюе вэрбавальныя плякаты, аздабляе памяшканьні на вечары працоўных і маршыруе разам у дэмонстрацыях пролетарыяту.

Усюды ён зьбірае ўражаньні ў шчыльнейшым адчуваньні народу. Само заўзятае змаганьне за штодзенны хлеб—зразумела прэса, якая залежыць ад пануючых клясаў, адмаўляе ў пахвальнай ацэнцы творчасьці няёмкага шукальніка праўды—ведае ён з сваёй уласнай доўгай практыкі. Яшчэ ён малады і бачыць усюды ўсе бядоты і несправядлівасьці; абураецца супроць усёй гэтай жорсткасьці, крытыкуе і вінаваціць іх. Павялічаная зрэласьць робіць яго здольным паказваць эксплёатаваныя масы, як носьбітаў будучага.

**Р. КАЛЬТОФЭН**

*) Мастацтва для мастацтва.




# РАЗЛОМ • ПАСТАНОЎКА 2 БЕЛАРУСКАГА ДЗЯРЖАЎНАГА ТЭАТРУ

ПРАЦА акторскага колектыву над „Разломам" адыграла ў свой час вялікае значэньне ў справе далейшага творчага разьвіцьця Беларускага Другога Дзяржаўнага Тэатру Гэта пастаноўка стварыла ў творчым жыцьці БДТ2 пэўны перапом, які прыцягнуў да тэатру спачуваньне і павагу з боку працоўнага гледача. Пастаноўка п'есы „Разлом" зьявілася рашучым паваротам БДТ2 у бок набліжэньня свайго рэпэртуару да ідэолёгічных запатрабаваньняў рабочае масы.

Паводле свайго зьместу гэта п'еса зьяўляецца гістарычнай і нават юбілейнай, бо напісана Б. Лаўрэневым да дзесяцігодзьдзя Кастрычнікавай рэволюцыі. Яна ахапляе сваім зьместам пэрыод паступовага нарастаньня рэволюцыі, пачынаючы ад Ліпнёўскіх дзён і да Кастрычніка 1917 г. На фоне гэтага часу і разгортваецца на сцэне тэатру рэволюцыйная барацьба матросаў за канчатковы захоп крэйсара „Аўрора" (па п'есе Зара), рашучае і сваячасовае выступленьне якога ня мала спрыяла, як вядома, перамозе працоўных у часе Кастрычнікавай бойкі ў Петраградзе.

Дзея гэтай п'есы разьвіваецца ў 2-х кірунках: з аднаго боку інтымная драма ў сям'і камандзіра „Зары" капітана Берсенева, выкліканая рэволюцыйнымі падзеямі і ідэёвымі супярэчнасьцямі паміж сябрамі сям'і, з другога-ж боку—рэволюцыйныя здарэньні на палубе крэйсара. Сцэны інтымна-сямейнага характару, паданыя ў псыхолёгічным разрэзе (1-ы і 3-і акты), пасьлядоўна чаргуюцца з масава-рэволюцыйнымі сцэнамі, якія разгортваюцца на рэалістычнай конструкцыі, што стварае ў гледача натуралістычнае ўражаньне вайсковага судна (2-гі і 4-ы акты).

Для паралельнай перадачы асобных, зьвязаных паміж сабой момантаў, тэатр ужыў у мастацка-тэхнічным афармленьні пастаноўкі (мастацкі кіраўнік С. Розанаў) арыгінальны прыём, запазычаны ў кіно. Сцэна і дзея падзяляюцца, дзякуючы гэтаму, на перакрыжаваныя кадры з паасобнымі эпізодамі. Гэта дае магчымасьць паказаць шэраг цікавых супроцьстаўленьняў (напрыклад: гасьцінная ў верхнім паверсе і кухня ў ніжнім).

Індывідуальна драматычныя моманты паказу нікольні не зацямняюць яго рэволюцыйнага фону. Абедзьве сюжэтныя лініі спэктаклю ўвязаны паміж сабою і ўзмоцнены адзінствам дзейных асоб, але асноўным героем спэктаклю застаецца рэволюцыйны і шчыльна зьнітаваны агульнасьцю ідэй колектыў матросаў. Масавыя сцэны выдзелены на першы плян і дэтальна распрацаваны. У гэтым бясспрэчная заслуга як рэжысуры, так і акторскага колектыву, здолеўшых выявіць і разыграць масоўкі жвава, яскрава і выразна. Сцэны на судне прыцягваюць да сябе напружаную ўвагу гледача, захапляюць яго сваёй жыцьцёвасьцю, прастатой і шчырасьцю. Гэтымі сцэнамі і тлумачыцца, галоўным чынам, бесьперапынны посьпех і популярнасьць „Разлому" сярод працоўнага гледача.

Увогуле „Разлом" зьяўляецца сільным, выразным і каштоўным у мастацкіх адносінах спэктаклем... Агітацыйны, у лепшым сэнсе гэтага слова, прасякнуты бадзёрасьцю і рэволюцыйным патосам зьмест гэтае п'есы надае спэктаклю ў злучэньні з мастацкім выкананьнем пастаноўкі, вялікае значэньне.

Багаты сцэнічны матэрыял пастаноўкі дае магчымасьць разгарнуць перад гледачом цікавы і рознастойны тыпаж. Перад ім паўстае цэльная галярэя жывых вобразаў першых часоў рэволюцыі. Глядач бачыць тут і матроса Гадуна, цьвёрдага і рашучага, але ў той-жа час ветлівага, і кіраўніка рэволюцыйнай масы. Лейтэнант фон-Штубэ—выразны вобраз морскага афіцэра, дробнай і дэспотычнай асобы, якая пакрыўджана рэволюцыяй у сваіх эгоістычных пачуцьцях. Капітан Бэрсенеў—сумленны, адданы сваёй справе спэц, які добраахвотна падпарадкаваецца рэволюцыйнаму кіраўніцтву. Дачка Бэрсенева—Тацяна, зьяўляецца тыпам станоўчай жанчыны, якая спачувае рэволюцыйным імкненьням масы. Другая дачка Бэрсенева Аксана—жвавы малюнак лёгкадумнай і эксцэнтрычнай паненкі. Боцман Швач—прадстаўнік прамежнай катэгорыі. „Ні табе афіцэр, ні табе матрос", як ён сам кажа. Наогул-жа гэта патэнтаваны здраднік і падхалім, які са скуры лезе, нават згодны на злачынства, абы толькі выслужыцца перад начальствам.

Акрамя асноўных роляй у спэктаклі ёсьць цэлы шэраг цікавых і рознастайных роляй эпізодычных.

Посьпехі „Разлому" сярод рабочай аўдыторыі лішні раз сьцьвярджаюць нам тую бясспрэчную ісьціну, што толькі творы сугучныя ідэям нашай сучаснасьці, могуць карыстацца бязумоўным прызнаньнем з боку організаванага масавага гледача.

В. ВОЛЬСКІ.

# ЗА ДВА ТЫДНІ

Я ШЧЭ аб Лёнданскай морскай комэдыі.

„Чырвоная Беларусь“ у той час, як адчынялася так званая лёнданская морская конфэрэнцыя па разбраеньні, пісала аб сапраўдных мэтах імпэрыялістых, якія з сур'ёзнымі тварамі зьбіраліся ў Лёндане, каб „гаворучы аб разбраеньні“... падрыхтоўваць новую вайну.

Вось ужо тры месяцы, на працягу якіх адбываецца лёнданская „комэдыя па разбраеньню“, паны мілітарыстыя на працягу ўсяго гэтага часу вядуць гутаркі толькі па адной і тэй-жа тэме: аб памерах флётаў імпэрыялістычных драпежнікаў, якія конкуруюць паміж сабою ў іх велічыні, прычым галоўным, асноўным імкненьнем, было жаданьне забясьпечыць расстаноўку сіл і ўзбраеньня для новай імпэрыялістычнай вайны, якая ўжо нарыхтоўваецца.

Барацьба на лёнданскай конфэрэнцыі, галоўным чынам, адбывалася паміж двума „кітамі“. Ангельшчына імкнулася захаваць сваю мінулую магутнасьць „уладаркі мораў“. Растлусьцеўшая Амэрыка, грозна пазвоньваючы сваім грашовым мяшком, дабівалася поўнага выроўніваньня свайго флёту з брытанскім, адначасова вярбуючы сабе магчымых ваенных хаўрусьнікаў.

Такім чынам другія дзяржавы як Францыя, Італія і Японія, па ходу справы ператварыліся ў об'ект, з-за якога ішлі спрэчкі.

Францускі імпэрыялізм не пажадаў мірыцца са сваім падначаленым становішчам, настойваючы на поўнапраўным удзеле ў далейшых узбраеньнях. Францыя рашуча патрабавала такога флёту, які забясьпечыў-бы ёй магчымасьць гаспадарнічаць у Сярэдземным моры, ахоўваючы свае колёніяльныя інтарэсы ў Паўночнай Афрыцы. Францыя выстаўляла свае патрабаваньні на права мець магутны падводны флёт, імкнучыся заўсёды трымаць жалезны ўзброены кулак супроць Ангельшчыны. Гэтыя патрабаваньні спаткалі рэзкае супроцьдзеяньне ня толькі з боку Ангельшчыны, але і з боку Італіі, якая бачыць у асобе францускага імпэрыялізму свайго небясьпечнейшага конкурэнтага-ворага.

Італія імкнецца да пашырэньня сваіх колёніяльных тэрыторый, і рост узбраеньня з боку Францыі зьяўляецца сур'ёзнай перашкодай на шляху яе прэтэнзій.

Партнэры распачалі азартную гульню. Амэрыка была гатова пайсьці на ўступкі Францыі ў яе патрабаваньнях, паколькі гэта непасрэдна не супярэчыла з яе ўласнымі інтарэсамі. Амэрыка імкнулася прыцягнуць Францыю на свой бок.

Але іменна гэтыя абставіны выклікалі рашучае супроцьдзеяньне Ангельшчыны, якая апынулася перад пэрспэктывай аказацца тварам да твару з аб'яднанымі сіламі двух вялічэзьнейшых морскіх дзяржаў. І Ангельшчына пайшла на некаторыя дыплёматычныя ўступкі—яна згадзілася на больш пашыранае тлумачэньне статуту Лігі Нацый, яна ўзяла на сябе абавязак абараняць Францыю ў часе вайны. Некаторыя ангельскія газэты сьцьвярджаюць, што ўступка Ангельшчыны мае вялізарнейшае палітычнае значэньне, бо новае тлумачэньне статуту Лігі Нацый цягне за сабой мэханічнае ўступленьне Ангельшчыны ў вайну.

Італія пільна сачыла за ходам інтрыг і перамаўленьняў. Італійская прэса паведаміла, што згода Ангельшчыны на падтрыманьне Францыі і выдача ёй пэўных палітычных абавязкаў роўназначна заключэньню ваенна-морскае згоды, мабыць выходзячай за межы Сярэдземнага мора. Газэта „Джорнале д'Італія“, комэнтуючы магчымасьць гэтае згоды, піша: „цяпер зразумела маруднасьць Макдональда пры распрацоўцы гэтае згоды, бо ён быў напэўна заклапочаны тым, як аднясуцца да гэтае згоды ПАЗШ і Італія“. Газэта катэгорычна заяўляе, што ня можа быць і гутаркі аб далучэньні да гэтае згоды Італіі, паколькі і Ангельшчына і Францыя адводзяць для яе толькі падначаленую ролю.

Чым-жа незадаволена італійская прэса?

Ангельска-францускя згода павінна была прадугледжваць адхіленьне патрабаваньняў Італіі аб роўнасьці італійскага і францускага флётаў. Італійскі друк сьцьвярджаў, што згода Ангельшчыны і Францыі накіравана супроць Амэрыкі і Італіі.

●

УЯВІМ сабе на адну хвіліну, што на конфэрэнцыю трапіў у якасьці гледача чалавек, які ня ведае ўсіх тых адмысловых комбінацый лёнданскіх разбраіцеляў. Што ўбачыў-бы гэты чалавек, які спачатку лаў-бы веры слову „разбраеньне“?

Ён даведаўся-б аб тым, што сэнс усяе гэтае конфэрэнцыі месьціцца ў тым, каб адыскаць юрыдычныя формулы для легальнай падрыхтоўкі вайны. Ён даведаўся-бы, што антогонізм паміж імпэрыялістычнымі драпежнікамі дясягнуў такой нязвычайнай вастрыні, што аб узгадненьні, якое магло-б прывесьці да памяншэньня ўзбраеньняў, ня можа быць і гутаркі. Наадварот, на конфэрэнцыі былі чутны зусім няпрыкрытыя патрабаваньні далейшых узбраеньняў.

Амэрыка патрабуе роўнасьці свайго флёту з ангельскім, а гэта значыць, што яна дабіваецца права на далейшае будаўніцтва ваенных суднаў. Гэта „разбраеньне“ № 1

Францыя патрабуе павялічэньня падводнага і надводнага флёту для таго, каб мець, моў, магчымасьць ахоўваць свае колёніі. Гэта „разбраеньне“ № 2.

Ангельшчына вуснамі свайго морскага міністра Александэра заявіла, што яна згаджаецца вывесьці з строю рад ваенных караблёў. Гэта заяўленьне мела сэнсацыйнае ўражаньне. Консэрватары выступілі з абвінавачваньнямі і пытальным неўразуменьнем—моў, бачыце, Александэр здраджвае інтарэсам Ангельшчыны. Але неўзабаве сапраўдны сэнс заяўленьня Александэра выявіўся. Аказалася, што Ангельшчына гатова вывесьці з строю тыя судны, якія па ўмовам сучаснае тэхнікі павінны быць заменены больш дасканалымі. Гэтак выглядае „разбраеньне“ № 3.

Італія патрабуе права на параўнаньне свайго флёту з Францыяй, а значыцца і далейшых узбраеньняў. Пікантна тое, што на конфэрэнцыі, якая афіцыйна іменуецца разбраіцельнай, Італія дамагаецца такога пашырэньня ваеннага флёту, якога ёй усёроўна ніколі не дасягнуць. Гэтыя патрабаваньні Італіі зьяўляюцца „разбраеньнем“ № 4.

Астатні партнэр № 5—Японіі. Яна таксама дамагаецца павялічэньня тонажу, пропорцыянальна амэрыканскаму флёту. Яна таксама патрабуе „прыбаўкі“, разьлічваючы, што гэта ёй, канечна, неабходна пры будучай ваеннай сутычцы з Амэрыкай.

... І чалавек, які раней даваў веры магчымасьці скарачэньня ўзбраеньня морскімі дзяржавамі ў хуткім часе, павінен быў прыйсьці да адзінага магчымага выніку:—пышныя дэкларацыі, якія папераджалі конфэрэнцыю, былі толькі дымавою завесай. Імпэрыялістычным драпежнікам ніколі не дагаварыцца паміж сабою.

І такая думка, зразумела, будзе зусім правільнай...

●

УСЕ проэкты і папыткі пашыранага тлумачэньня статуту Лігі Нацый, і пропозыцыя Гувэра аб „консультацыйным пакце“—усё гэта аказалася бясьсільным прымірыць няпрымірымыя супярэчнасьці імпэрыялістычных драпежнікаў. Тэлеграмы з Лёндану паведамляюць, што „конфэрэнцыя пяці дзяржаў канчаткова топіцца ў бурлівых хвалях узрастаючых супярэчнасьцяў. Спробы знайсьці формулу абавязацельства ваенных гарантый, якая-б задаволіла Францыю сваёй абсолютнай дакладнасьцю і адначасова задаволіла-б Ангельшчыну сваёй ні да чога не абавязваючай невызначальнасьцю, да гэтага часу ня прынесьлі ніякіх конкрэтных вынікаў“..

У ангельскай прэсе зноў падкрэсьліваецца думка, што Ангельшчына павінна зноў падцьвердзіць сваю абсолютную свабоду дзеяньня ў будучай вайне. Дагэтуль гэты пункт погляду выяўляўся дыплёматычнай фразэолёгіяй афіцыяльных колаў.

●

У ЧАСЕ лёнданскай конфэрэнцыі ў Парыж прыляцеў сэр Дэтэрдынг з візытам да францускага прэм'ера Тард'е. Імя Дэтэрдынга добра вядома працоўным масам нашага Саюзу. Дэтэрдынг—найбольш азлоблены вораг краіны Саветаў. Нафтавы кароль Дэтэрдынг распачаў новую гісторыю пасьля правалу кіно-роману з „выкраданьнем“ белагвардзейскага генэрала Куцепава. Мэтай прыезду Дэтэрдынга ў Парыж і перамаўленьняў з Тард'е было імкненьне дабіцца разрыву зносін Францыі з СССР, захапіць нафтавы рынак, на якім умацаваўся нафтасындыкат СССР.

Пабачым, што пішуць аб гэтым ангельскія, добра дасьведчаныя газэты. Комэнтарыі гэтых газэт поўны празрыстых намёкаў на скандальны ўдзел шэрагу францускіх дэпутатаў у жульніцкіх опэрацыях з нафтаю. Газэты запэўняюць, што Дэтэрдынг выясьніў пэрспэктывы снабжэньня Францыі нафтаю на выпадак разрыву з СССР.

У сувязі спатканьня Дэтэрдынга з прэм'ерам Тард'е, ЦК комуністычнае партыі Францыі, даючы ацэнку апошнім палітычным падзеям, піша:

„Падзеленыя глыбокімі супярэчнасьцямі, імпэрыялістычныя дзяржавы, якія перадраліся паміж сабою на конфэрэнцыі па-морскаму „разбраеньню“, якая ў сапраўднасьці зьяўляецца конфэрэнцыяй па ўзмацненьні ўзбраеньняў, адначасна разьмяркоўваюць паміж сабою ў Лёндане ролі для ўзброенага нападку на СССР“.

# НА франтох клясавых БОЕК



Магутная дэмонстрацыя беспрацоўных у Вене. Карабіны аўстрыйскіх соцыял-фашыстых не спалохалі пролетарыят Вены. Дзесяткі тысяч рабочых выйшлі пад сьцягамі компартыі.




Мітынг беспрацоўных супроць тэрору паліцыі і беспрацоўя ў Бэрліне прашоў пад лёзунгам: „Змагайцеся супроць паліцэйскага тэрору і ўраду прыгнятальнікаў“.



Крызіс амэрыканскае гаспадаркі даў моцны штуршок разьвіцьцю рэволюцыйнага руху сярод нават самых адсталых пластоў пролетарыяту ПАЗШ. Заваяваўшы сабе права на вуліцу, вялізарныя масы рабочых Сан-Францыско сабраліся на дэмонстрацыю пад сьцягамі компартыі.



У знак протэсту супроць беспрацоўя сабраліся тысячы комуністых і беспрацоўных рабочых на пляц Саюзу ў Нью-Ёрку. Тав. Вільям Фостэр (пасьля арыштаваны паліцыяй) выступае перад дэмонстрацыяй ад імя компартыі.



Польскія фашыстыя апанавалі саюзам чыгуначнікаў, дзе з'арганізавалі асоцыяцыю, якая ваянізуе рабочых і служачых чыгунак. Пілсудзкі разам з ген. Дрэшэрам і міністрам шляхоў зносін Кюнам прымалі ўдзел у асьвячэньні сьцягу асоцыяцыі.



Венская паліцыя шырска рыхтавалася да 1-га мая, правяла вялікія арышты рэволюцыйных рабочых, каб папярэдзіць далейшыя выступленьні. На здымку: паліцэйскія вядуць арыштаванага галоўнага рэдактара комуністычнае газэты „Ротэ Фане“, які ў сакавіковыя дні ішоў на чале дэмонстрацыі і выступіў з прамовай ад імя ЦК компартыі Аўстрыі.

# ПА ЧЫРВОНАЙ БЕЛАРУСІ



У Менску па Чырвонаармейскай вуліцы будуецца Беларуская Дзяржаўная бібліотэка.
На здымку: агульны выгляд пабудовы.



Машыннае аддзяленьне ўноўадбудованага Аршанскага мясного комбінату.



Колгас імя Сьвярдлова (Рагачоўска-Жлобінск раён) на ўсе 100% абагуліў насеньне. На фото: апошні воз з насеньнем.



Новапабудаваны клюб хэмікаў у Барысаве.



Усебеларуская сельска-гаспадарчая выстаўка будуецца.
На здымку: пабудова галоўнага павільёну.





Будуць меткія стралкі. Справа: жаночая каманда АБВШ на стралковых занятках. Зьлева: т. А. Г. Ермаловіч, якая ўзяла першае месца на жаночым стралковым спаборніцтве АБВШ.

# Кніжная вітрына

## „БІБЛІОТЭКА БЯЗБОЖНІКА“

**Хайтун і Капаевіч—Сучаснае сэктанцтва на Беларусі.** 72 стар. Цана 45 кап.

**В. Сарокін. Пра нараджэньне багоў і бабуліны байкі.** 18 стар. Цана 7 кап.

**М. Гораў. „Сьвятыя ўгоднікі“.** 26 стар. Цана 7 кап.

**Эліашэвіч. Рэлігія ў барацьбе за рабочую моладзь.** 72 стар. Цана 20 кап.

**Амосаў. За бязбожную дзятву.** 32 стар. Цана 10 кап.

**Сумарокаў. Крыж і абраз.** 29 стар. Цана 8 кап.

**Дзьмітрыева. Цемра і забабоны.** 16 стар. Цана 7 кап.

**Ул. Сараб'янаў. Марксызм і рэлігія.** 54 стар. Цана 15 кап.

Выданьні БДВ. Менск 1929—30 г. г.




Надыходзячыя сьвяты вялікадня кулак на вёсцы і нэпман у горадзе будуць імкнуцца скарыстаць у мэтах антысавецкае агітацыі, у мэтах узьдзейнічаньня на адсталую частку працоўных жанчын, якія яшчэ не парвалі канчаткова рэлігійныя ланцугі.

У дні вялікадня папы, ксяндзы і рабіны будуць яшчэ больш узмоцнена мобілізаваць вакол сябе веруючыя масы. Гэта азначае, што духоўнікі, выкарыстоўваючы рэлігійныя настроі, будуць нацкоўваць цёмныя масы на савецкую ўладу.

У сваёй рабоце нашы духоўнікі не адзінокі. Ім дапамагаюць духоўнікі і буржуазія ўсіх краін.

Неабходна, ва ўмовах шалёнага цкаваньня СССР з боку імпэрыялістых і ва ўмовах абвостранай клясавай барацьбы ўнутры краіны, завастраць увагу рабочых і бядняцка-серадняцкай масы сялянства на ліхаманкавай падрыхтоўцы замежнай буржуазіі да нападу на нашу соцыялістычную бацькаўшчыну, растлумачыць сапраўдную сутнасьць падрыхтоўкі крыжовага паходу папы Пія XI на Савецкі Саюз, растлумачыць эксплёататарскую ролю рэлігіі.

Белдзяржвыдавецтва за апошні час поруч з сэрыямі кніжок на розныя тэмы, пачало выдаваць спэцыяльную „бібліотэку бязбожніка“.

Кніжкі, якія выйшлі, бязумоўна, прынясуць значную карысьць для антырэлігійнае работы.

Тут мы маем брошурку Дзьмітрыевай „Цемра і забабоны“, дзе надзвычайна популярна расказваецца, як людзі хварэюць і мруць ад цемры і забабонаў. Сарокін („Пра нараджэньне багоў і бабуліны байкі“) ускрывае ўсю хлусьлівасьць розных баек аб бозе і паходжэньні сьвят.

Маецца і матэрыял аб паходжэньні культу крыжу і абразоў (Сумарокаў „Крыж і абраз“) (Гораў „Сьвятыя ўгоднікі“) выходзіць цэлы шэраг „сьвятых“,




аб якіх пішацца ў „жыціях“. Ён паказвае, што калі самому пачытаць гэтыя кнігі ды падумаць без папоўскага тлумачэньня аб прачытаным то лёгка ўбачыць каго царква лічыць за сьвятых. Хітрыя, злосныя, лютыя і злосныя людзі, дзівакі, забойцы, рабаўнікі ці проста дурныя блазны, — вось каго царква лічыць за сьвятых.

Сярод кніжок маюцца матэрыялы аб рабоце маладых бязбожнікаў—дзяцей (Амосаў—„За бязбожную дзятву“), і рэлігійным руху сярод моладзі ў капіталістычных краёх і ў СССР. (Эліяшэвіч—„Рэлігія ў барацьбе за рабочую моладзь“).

Сэктанцтва на Беларусі ў самых рознастайных яго праявах — евангельскія хрысьціяне, баптыстыя, адвэнтыстыя, багамолы, шарсьцінцы—знаходзіць досыць поўнае адбіцьце ў кніжцы Хаўтуна і Капаевіча „Сучаснае сэктанцтва на Беларусі“.

Бязумоўна значную карысьць прынясе антырэлігійніку кніжка Сараб'янава („Марксызм і рэлігія“), у якой аўтар праводзіць думку, што змаганьне марксызму з рэлігіяй—гэта пасьлядоўны выхад з тэорыі марксызму, яго практыкі. Гэта кніжка патрабуе падрыхтаванага чытача.

Упяршыню наша БДВ да антывялікоднай кампаніі мае на паліцах сваіх крам параўнальна значную колькасьць літаратуры на беларускай мове. Неабходна каб гэта літаратура была прасунута да чытача.

---

**Ал. Клібанаў—„Комсамол на фронце бязбожжа“.**

Пераклад А. Гурло. БДзВ, Менск, 1930 г. 96 стар. Цана 25 к.

Кніжка Клібанава расказвае як весьці




комсамолу антырэлігійную пропаганду. Але кола чытачоў яе бязумоўна будзе значна шырэй. Кожны чытач і антырэлігійны работнік знойдзе ў ёй цэлы шэраг патрэбных для сябе матэрыялаў і адказаў на цікавячыя яго пытаньні. Што такое саюз бязбожнікаў? Як змагацца з рэлігійнымі забабонамі? Як правесьці антывялікодную і антыкалядную кампанію? Як работаць у школе? Чаму патрэбна антырэлігійная пропаганда? і г. д.

У канцы кнігі зьмешчана рэзолюцыя АПО ЦК УсеКП(б) аб антырэлігійнай рабоце і шэраг програм для гурткоў бязбожнікаў розных тыпаў. Трэба пажадаць толькі, каб гэта карысная і танная кніга (усяго 25 кап.) хутчэй дайшла да свайго чытача.

---

**Х. Явар—Ічэ. „Бібліотэка школьніка“, БДВ, Менск, 1929 г. 40 стар. Цана 15 к.**

Тэму для свайго апавяданьня Явар узяў з жыцьця моладзі Сын краўца, хлапчук




Іцка, імкнецца пашырыць свае веды ў галіне электрычнасьці.

Ён трапляе да загадчыка электрастанцыі які згаджаецца яго вучыць. Але вучэньне пасоўваецца досыць марудна наперад таму, што зусім ня ў інтарэсах пана Пшыбыльскага, каб „жыдок“ хутка аўладаў веламі. Ён яго больш эксплёатуе для сваёй карысьці. Пазбаўляюць Ічэ ад гэтай эксплёатацыі комсамолец і рабочыя дэпо, якія дапамагаюць яму зрабіцца рабочым па электрастанцыі.

Напісаная проста кніжачка будзе цікава ня толькі вучню. З прыемнасьцю яе прачытае рабочая моладзь. Не пашкадуе, што яе прачытаў дарослы рабочы і селянін.

---

**І. Арабей—Што такое фізкультура, як ёю займацца. Сэрыя „Гігіена—фізкультура—здароўе“, БДВ, Менск, 1930 год, 64 стар. Цана 25 кап.**

БДВ пачало выдаваць новую сэрыю кніжок пад агульнай назвай „Гігіена—фізкультура—здароўе“. Кніжкі гэтай сэрыі павінны даць чытачу асноўныя веды з паказаных галін.




Брошура Арабея дае агульныя весткі аб фізкультуры, паказвае чым розьніцца савецкая фізкультура ад буржуазнай і апавядае як займацца фізкультурай.

Асноўны мэтод нашай фізкультуры—гэта выкарыстоўваньне прыродных рухаў і натуральных фактараў прыроды, сьледаваньне пэўнаму гігіенічнаму рэжыму і набыцьце гігіенічных звычак.

Аб усім гэтым досыць популярна піша аўтар

# СТАРОНКА ГУМАРУ

Тэкст Рыг. Л. Малюнак Я. Розанава.




БЮРОКРАТ: Я-а-ак!.. Ужо вясна?!.. Не па пляну?! . Чорррт ведае што такое!..

Выданьне Беларускага Дзяржаўнага Выдавецтва. Адказны рэдактар МІХАСЬ ЧАРОТ.

# ПАДПІСВАЙЦЕСЯ на 1930 г.

НА ШТОМЕСЯЧНЫ
ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДЗКА-ПОЛІТЫЧНЫ ЧАСОПІС

# МАЛАДНЯК

**8-мы ГОД ВЫДАНЬНЯ**

**ОРГАН БЕЛАРУСКАЙ АСОЦЫЯЦЫІ ПРОЛЕТАРСКІХ ПІСЬМЕНЬНІКАЎ**

| | |
|---|---|
| **„МАЛАДНЯК“** | зьяўляецца баявым часопісам у змаганьні за пролетарскую літаратуру |
| **„МАЛАДНЯК“** | на сваіх старонках будзе і надалей рашуча праводзіць цьвёрдую пролетарскую лінію ў галіне літаратуры, рашуча змагацца са ўсялякімі хістаньнямі і ўхіламі, са шкоднымі тэндэнцыямі і варожымі праявамі ў літаратуры |
| **„МАЛАДНЯК“** | будзе даваць аддзел сатыры і гумару (шаржы, пародыі, літаратурныя гумарэскі і фэльетоны) |
| **„МАЛАДНЯК“** | у 1930 годзе дасьць сваім падпісчыкам лепшыя ўзоры пролетарскай літаратуры (романы, аповесьці, поэмы, вершы, драм. творы) |
| **„МАЛАДНЯК“** | у 1930 годзе зьмяшчае шэраг артыкулаў па пытаньнях пролетарскага мастацтва і творчых дасягненьнях беларускай пролетарскай літаратуры, а таксама літаратуры братніх рэспублік |
| **У МАЛАДНЯКУ** | будзе давацца багаты аддзел бібліографіі і хронікі культурнага жыцьця як БССР, гэтак і іншых рэспублік |

**У часопісу бяруць удзел лепшыя сілы пролетарскай літаратуры і марксыцкай крытыкі**

Кожная партыйная і комсамольская ячэйка, клюбная бібліотэка, чырвоны куток фабрыкі і заводу, нардом, хата-чытальня, школа, літгурток—ПАВІННЫ ВЫПІСАЦЬ ЧАСОПІС „МАЛАДНЯК“ ▪ Рабочы, селянін, настаўнік, студэнт, кожны, хто цікавіцца пытаньнямі літаратуры і мастацтва, ВЫПІСВАЙЦЕ І ЧЫТАЙЦЕ ЧАСОПІС „МАЛАДНЯК“ ▪ У 1930 годзе ЧАСОПІС БУДЗЕ ВЫХОДЗІЦЬ РЭГУЛЯРНА КОЖНЫ МЕСЯЦ на 10 АРКУШАХ.

## УМОВЫ ПАДПІСКІ:

| На год | На 6 м-цаў | На 3 м-ца | На 1 м-ц |
|---|---|---|---|
| 3 — | 1 60 | — 90 | — 30 |

ЦАНА Ў РОЗЬНІЧНЫМ ПРОДАЖУ 40 К.

**ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА:** ва ўсіх паштовых аддзяленьнях, агенцтвах, ва ўсіх кнігарнях Беларускага Дзяржаўнага Выдавецтва, усімі аддзяленьнямі „Правда“ і спэцыяльнымі ўпаўнаважанымі Выдавецтва „Чырвоная Зьмена“.

ПАДПІСКУ МОЖНА ПАСЫЛАЦЬ у Выдавецтва „Чырвоная Зьмена“ па адрасу: гор. Менск, Комсамольская, 25, або непасрэдна па адрасу рэдакцыі: г. Менск, Савецкая, 68, Дом Пісьменьніка, рэдакцыі „Маладняк“—тэл. 8-77.

БЕЛДЗЯРЖВЫДАВЕЦТВА

# ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ

**24 НУМАРЫ НА ГОД**

ІЛЮСТРАВАНАЯ ДВУХТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ
Адказны рэдактар МІХАСЬ ЧАРОТ

Адрас рэдакцыі: Савецкая, 79.

**„ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ“** высьвятляе ў мастацкім слове і багатай ілюстрацыі рост і разьвіцьцё соцыялістычнага будаўніцтва БССР і ўсяго Савецкага Саюзу, рэконструкцыю народнае гаспадаркі, посьпехі індустрыялізацыі і колектывізацыі сельскай гаспадаркі, шляхі культурнае рэволюцыі.

**„ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ“** знаёміць чытача з рэволюцыйнымі падзеямі ўсяго сьвету, а таксама і з важнейшымі зьявішчамі сусьветнай экономікі і культуры.

**„ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ“** зьмяшчае: апавяданьні, вершы, нарысы, падарожжы, фэльетоны, артыкулы з палітычнага, экономічнага, культурнага і мастацкага жыцьця, мастацкія навінкі, ілюстрацыі, рэпродукцыі карцін выдатнейшых мастакоў, а таксама гумарэскі, пародыі, старонкі сатыры і гумару з адпаведнымі шаржамі і карыкатурамі.

**„ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ“** адлюстроўвае ўсё бягучае жыцьцё мастацтва як савецкага, так і сусьветнага, найбольш буйныя зьявішчы літаратуры, тэатру і кіно.

**ПАДПІСНАЯ ЦАНА на 1930 год**

| | |
|---|---|
| На 1 год . . . . | 3 руб. — |
| На паўгода . . . . | 1 руб. 50 кап. |
| На 3 месяцы . . . | — 75 кап. |

**Цана асобнага нумару 15 кап.**



**ПАДПІСКУ ПРЫМАЮЦЬ:**
Бюро падпіскі БДВ (Менск, Ленінская, 19), Цэнтральная кнігарня БДВ, усе акруговыя аддзяленьні БДВ, кнігарні ЦРК, кіёскі контрагенцтва друку, Беларускае газэтнае бюро, усе паштовыя аддзяленьні, усе лістаносцы як у гарадох, так і ў вёсках і асобы, якія маюць пасьведчаньні.

**Часопісь „ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ“ прадаецца ўва ўсіх кнігарнях БДВ, ЦРК, кіёсках контрагенцтва друку і выдав. „Праўда“, чыгуначных кіёсках, пашт. кіёсках і ўсіх газэтаносцаў ува ўсіх гарадох і мястэчках БССР**

Менск, друк. БДВ, зак. № 712.
Галоўлітбел № 1031. У ліку 8.000 экз.